
І там жывуць людзі ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Арыгінальная Гандзя ➔ 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 42 (3153) Год LXI | Беласток, 16 кастрычніка 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Закон аб сістэме адукацыі прадугледжвае, што школа і грамадская ўстанова „спрыяе вучням захоўваць пачуццё нацыянальнай, этнічнай, моўнай і рэлігійнай тоеснасці, у прыватнасці вывучэнне мовы, гісторыі і культуры» (арт. 13 абзац 1). Менавіта гэта школьніцтва з'яўляецца той прасторай, у якой закладзены культурны лёс меншасці. Без падтрымкі адукацыі меншасці з боку дзяржавы паступовае знікненне многіх нацыянальных і этнічных меншасцей з'яўляецца непазбежным працэсам.**

# Круглы год без падручнікаў па беларускай мове

Фінансаванне асветы, падручнікі на мове меншасцей, метадычная кансультацыя — гэта агульныя пастулаты, якія з'яўляюцца прынцыповымі ў стратэгіях развіцця адукацыі нацыянальных меншасцей у Польшчы. Хаця беларуская стратэгія, пасля першай — літоўскай, прынята была 13 гадоў пазней, у 2014 годзе, абнадзейвала і давала шырэйшыя магчымасці развіцця ў галіне адукацыі. Аднак застаецца пытаннем ці беларусы сапраўды могуць лічыць прынятую стратэгію поспехам, калі ў кулуарах гаворыцца аб недахопе асноўнай адукацыйнай «прылады» — падручнікаў.

Гэтую небяспеку бачаць таксама бацькі, дзеці якіх вывучаюць беларускую мову. Менавіта яны звярнуліся ў рэдакцыю «Нівы» з праблемай недахопу падручнікаў для трэцяга класа пачатковай школы. А праблема аказваецца даволі вялікай. Здараецца, што настаўнікі, якія маюць адзін падручнік на цэлы клас, ксеракапіруюць вучням патрэбныя на заняткі тэмы. Школа ў Міхалове ратуецца планшэтамі, закупленымі дырэктарам школы дзеткам, якія вывучаюць беларускую мову. Сканы кніжкі дазваляюць праводзіць заняткі. Можа здзіўляць факт, чаму дырэкцыя, настаўнікі проста не звернуцца ў Кураторыю асветы, якая абавязана высвятляць праблемы з падручнікамі для меншасці, ці ў Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА.




22 чэрвеня гэтага года ў Ваяводскай управе прайшла сустрэча працоўнай групы ў складзе прадстаўнікоў школ Падляшша, беларускіх арганізацый ды міністэрскіх чыноўнікаў ведамстваў нацыянальнай адукацыі і ўнутраных спраў. Дакумент меў ацаніць рэалізацыю стратэгіі беларускай асветы на працягу чарговага года і вызначыць план дзеяння, які ў будучыні дапаможа ў развіцці школьніцтва беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. На аснове пратакола з пасяджэння вынікае, што гаварылася пра падручнікі ў кантэксце выдавання новых, дастасаваных да новай структуры і канцэпцыі школьнай сістэмы, аднак ніхто не закрануў ужо некалькігадовай праблемы іх недахопу ў беларускіх школах.

— На прысвечанай стратэгіі сустрэчы прысутнічалі дырэктары школ, — тлумачыць старшыня Аб'яднання АБ-БА **Кацярына Паўлоўская**. — Гаварылася, што ў сітуацыі, калі не хапае падручнікаў, дырэкцыя павінна звярнуцца ў Кураторыю асветы з канкрэтнай інфармацыяй колькі падручнікаў патрэба. Тады мы інфармуем Міністэрства адукацыі, што трэба падручнікі дадрукаваць і яны абавязаны гэта фінансаваць. Аднак неабходным з'яўляецца, каб той фармальны бок — дырэктары павінны выступіць з канкрэтнай заявай.

Аднак не здзіўляе пасіўнасць дырэкцыі, таму што тая рабіла спробы падаць адпаведную заяву ў Кураторыю, атрымоўваючы адказ, што падручнікаў усё-такі не будзе.

— У мінулым годзе дырэкцыя нашай школы была праінфармаваная, што па прычыне недадрукавання падручнікаў яны недаступныя, — тлумачыць настаўніца беларускай мовы Пачатковай школы № 1 у Гайнаўцы **Анна Франкоўская**. — Сёлета ўжо пад канец жніўня Кураторыя паведаміла нам па тэлефоне, што падручнікаў не будзе. Таму школа нават не звярталася з патрэбнай заявай.

Менавіта ў гайнаўскай адзінцы не хапае 14 падручнікаў для трэцяга класа. Трэба адзначыць, што менавіта ў гэтай школе бацькі вельмі стараліся і намагаліся, каб пабольшаць колькасць навучэнцаў роднай мовы.

Падобная сітуацыя і ў Пачатковай школе № 2 у Гайнаўцы ды ў Пачатковай школе ў Ягуштове. Дзякуючы клопату і намаганням настаўнікаў, бельская «тройка», у якой найбольш дзяцей вывучае беларускую мову, адзваявала кніжкі.

— Нашы дзеткі маюць падручнікі, — кажа настаўніца **Валянціна Бабулевіч**. — Хаця тыя для трэцяга класа, якія дзеткі перадаюць сабе з году ў год, вельмі дрэнна сшытыя і напэўна школа будзе заказваць новыя па прычыне дрэннага стану цяперашніх.

Непублічная школа ім свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку на тры класы гімназіі мае паасобныя экземпляры падручнікаў. Адзіным магчымым спосабам працы для настаўніцы з'яўляецца ксеракапіраванне, што дазваляе вучням вывучаць паасобныя тэмы. Там у гімназіі беларускую мову вывучае пад 40 вучняў.

— Мы звярталіся два гады таму ў Кураторыю з просьбай аб падручніку, але атрымалі адказ, што, проста, такіх падручнікаў не выдаюць, — сказала настаўніца **Іаанна Марко**. — Параілі адначасова, каб гэтых шукаць у іншых школах, дзе выкладаецца беларуская мова.

Школьныя падручнікі і дапаможныя кнігі для навучання дзяцей, неабходныя для падтрымання пачуцця нацыянальнай і моўнай ідэнтычнасці, фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту. На практыцы гэта абазначае, што выдаткі на падручнікі, якія друкуюцца на мовах меншасцей, пакрывае Міністэрства адукацыі і перадае школам.

Візітатар адказная таксама за справы адукацыі нацыянальных меншасцей Кураторыі асветы ў Беластоку **Крыстына Пасюк** цвёрда пярэчыць таму, што хтосьці мог пазваніць з такой інфармацыяй.

— Няма такой магчымасці, каб я забараняла каму-небудзь падаваць заяву на падручнікі, — тлумачыць **Крыстына Пасюк**. — Была агучана інфармацыя, каб менавіта падаваць заявы, а мы тады падумаем, што з гэтым зрабіць і тады, магчыма, будзем рабіць захады ў міністэрстве. Я званіла ў Таварыства ўсеагульных ведаў з пытаннем ці маюць падручнікі па беларускай мове. Адказ быў адназначны — маюць па французскай, англійскай мовах, але па беларускай не, і не маюць намеру друкаваць. Калі атрымаем пісьмовыя звароты ад дырэктараў школ, у такім выпадку мы праінфармуем міністэрства. Хаця свайго часу я размаўляла з міністэрствам, якое, у сваю чаргу, паведаміла нам, што падручнікаў няма. Ведаю, што ў мінулым годзе міністэрства друкавала падручнікі па літоўскай мове.

У мінулую пятніцу звярнуліся мы да начальніка дэпартамента рэлігійных веравызнанняў і нацыянальных ды этнічных меншасцей Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Дабяслава Жэмянеўскага з просьбай пракаментаваць, ці вядома яму справа рэальнага недахопу падручнікаў па беларускай мове. У момант здачы гэтага нумара «Нівы» ў друкарню не атрымалі мы афіцыйнага каментарыя ў гэтай справе.

Пасля звароту „Нівы" у міністэрства, на сайце Кураторыі асветы ў Беластоку з датай 7 кастрычніка з'явілася інфармацыя пра недахоп падручнікаў для II і III класаў пачатковай школы, падпісаная віцэ-куратарам асветы магістрам Бажэнай Дзіткоўскай.




Нягледзячы на ўсе закалоты з падручнікамі і іншыя клопаты, хочам павіншаваць усіх настаўнікаў з Вашым прафесійным святам. Жадаем Вам творчых поспехаў, радасці з працы з дзецьмі і моладдзю. А «Ніва», як заўсёды, будзе спадарожнічаць Вам у так патрэбным усім нам выхаванні чарговых пакаленняў маладых беларусаў.

Уршуля ШУБЗДА





# У дарозе

У доўгай дарозе заўсёды ёсць час падумаць, паразважаць, пра нешта ўспомніць, а нешта запланаваць. Калі едзеш адзін, добра памаўчаць, калі з сябрамі — пагаварыць пра многія рэчы, паспрачацца, падзяліцца ўбачаным адразу.

Пашчасціла мне праехацца ў мінулыя выхадныя амаль праз усю Беларусь — ад заходняга Гродна да Мазыра, што на паўднёвым усходзе краіны. Калі казаць пра геаграфію паводле сённяшняга адміністрацыйнага падзелу — то праз Гродзенскую, Брэсцкую і Гомельскую вобласці, пераважна па землях Палесся. Праехаць амаль праз дзясятак раённых цэнтраў і мноства іншых, больш дробных паселішчаў. У нашых суседзяў за ўсходняй мяжой, як ведама з літаратурнай класікі, дзве праблемы: дарогі і дурні. У Беларусі дарогі якраз добрыя, лепшыя чым у бальшыні сумежных дзяржаў. А галоўныя дзве біды — таксама дурні і ўсходнія суседзі. Класік нашай літаратуры пісаў, што ўся бяда ад дурнога і кепскага начальства. А начальства гэтае ўжо трыста гадоў — альбо чужынцы, альбо мясцовыя манкурты. Гэта асаблівая катэгорыя людзей — іх кіраванне скіравана выключна на захаванне сваёй улады і на тое, каб не даць развівацца іншым. А калі няма палітычнага выбару, няма эканамічнай канкурэнцыі, няма спабору ідэй — толку не будзе. І так ва ўсіх сферах, і ў прыватнасці турыстычнай, пра якую і хочацца пагаварыць.

Прыязджаеш, прыкладам, у які-небудзь айчынны турыстычны цэнтр — і цікавых аб'ектаў шмат, і музеі створаны, і нават указальнікі з'явіліся. Але захочаш паабедаць — заходзіш у адчыненую кавярню, а там кажуць: „Мы то працуем, але ў кухара сёння выходны". Адпаведна ў такой установе могуць толькі наліць алкаголю, а ўжо каб закусіць гарачым — і марыць не даводзіцца. А што рабіць тым, хто не ўжывае моцных напояў? Тыя, хто падарожнічае па Беларусі, не раз сутыкаліся з такой праблемай. І нічога, што нядзеля, а ў цэнтры стаіць некалькі турыстычных аўтобусаў. А таму, што „всё вокруг колхозное", а значыць, нічыё. Былі б гэтыя кавярні прыватныя — працавалі б пры патрэбе кругласутачна. Але не туды тое. Дзяржава ўсё сцягвае на сябе, замест таго, каб даць гаспадарчую вольнасць прадпрымальным людзям, культурніцкую вольнасць творчым людзям, яна лезе ўсюды, нават у тое, у чым зусім не разбіраецца. Таму і вынікі такія. І пакуль будзе гэта савецкая сістэма, развіццё будзе менавіта такім: касабокім, перакручаным і няўклюдным, нягледзячы на ўсе захады, інвестыцыі і намаганні.

Іншым прыкладам — добрая ідэя — бязвізавая зона ў раёне Аўгустоўскага канала. Нібыта вось-вось яна запрацуе. Але ўжо ў бочку гэтага мёду, якога яшчэ ніхто не пакаштаваў, уліў нейкую бутэльку дзёгцю. Гасцям Беларусі, якія будуць наведваць без візы ваколіцы Гродна, будуць выдаваць адмысловыя пашпарты турыстаў. Прычым будуць гэтыя інфармацыйныя буклеты на расейскай, польскай і англійскай мовах. Мове ж тытульнай нацыі — беларускай — і тут няма месца. Калі хтосьці скажа, што гэта з-за таго, што беларуская мова нібыта „некамерцыйная" сёння — то гэта хлусня. Хутчэй зараз назіраецца адваротная тэндэнцыя. Значыць справа ў іншым — альбо ў поўнай прымітыўнасці мазгоў распрацоўнікаў праекта, альбо ў іх свядомай антыбеларускай пазіцыі.

А вось яшчэ днямі прайшла інфармацыя, што рыхтуецца новы ўказ — забараніць аграсядзібам прымаць больш 20 чалавек разам. Ці не абсурд? Гэта тое сама, што забараніць чалавеку запрашаць у сваю кватэру, скажам больш 5 чалавек. Нейкі чыноўнік, які нічога ствараць за ўсё сваё бюракратычнае жыццё не зрабіў, будзе ўказваць дбайнаму руплівому гаспадару, якую колькасць людзей той можа накарміць і прыняць на начлег. Захоча нехта правесці на аграсядзібе адзначэнне юбілею ці вясельную вечарыну — то ўжо мусіць уразаць спіс запрошаных гасцей.

А турыстычны патэнцыял у Беларусі вялізны — прыродны, архітэктурны, паляўнічы, атракцыйны. Зямля прыгожая, гісторыя вялікая, ды і людзей добрых шмат. У дарозе па значнай прасторы ўсё гэта бачыцца і адчуваецца выразна. Але ж калі ў прыроднай зоне замест гатэляў, паркаў адпачынку і кавярняў будуюцца шкодныя прадпрыемствы ці атамная станцыя, то ўвесь гэты патэнцыял пойдзе пылам.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Звычайнае жыццё

Гісторыя разгортваецца ў... тэрмітніку. Напярэдадні рэвалюцыі. А калі нават і не, то на мяжы хаосу. Тэрмітнік гэта сучасная дзяржава. «Чалавечая» дзяржава. Напрыклад, Польшча. Хоць гэта і не абавязкова толькі Польшча. Яна мае свае ўправы і ўстановы. Знаходзяцца там таксама штосьці такое як урад і грамадзяне, якія маюць правы і абавязкі, ідэі і ўтопіі. Ёсць там багатыя і бедныя, армія і мастацтва, а таксама рэлігія, якой аб'ектам пакланення з'яўляецца Найглыбейшая-Найплыцейшая Істота. У рэшце рэшт, памятаем, што тэрміты жывуць пад зямлёй. Яны нараджаюцца практычна сляпымі і паміраюць сляпымі. Нягледзячы на гэта, капаюць пад зямлёй штосьці накшталт гарадоў і вёсак: вуліцы, жылыя ямы, яслі і дзіцячыя сады, офісы-лабірынты, прадпрыемствы харчовай прамысловасці, аддаленыя вытворчыя фермы і ўсю цывілізацыйную інфраструктуру. Гаворка тут аб цывілізацыі тэрмітаў (кузурак, насякомых), не людзей. Так ёсць у рэальнасці, хоць і больш у нашым уяўленні. Толькі што наша ўяўленне выяўляецца ў чалавечай форме. У адваротным выпадку мы не ў стане ўявіць сабе многіх светаў, якія суіснуюць паралельна з нашым — знакаміта сарганізаваных пчолы і адухоўленых сланоў. Такім чынам малявалі свет багоў старажытныя грэкі і рымляне, прыдаючы іх неспасціжнай боскасці чалавечыя рысы. Таксама старазапаветны Госпад гневаецца або шукае помсты, радуецца і, радуючыся, адпускае людзям няшчасці. Так яго малявалі людзі ў мінулым. І цяпер. Гэта зруб аповеду аб абшчыне не зусім уяўнай. Аб тэрмітах. Або аб людзях іначай. Хто прачытае, сам асудзіць. Мае ён загаловак: «Лекцыя прафесара Ммаа». Першае выданне было апублікавана ў 1953 г. Яе аўтар, незаслужана забыты сёння Стэфан Тэмерсон, авангардны мастак, пісьменнік, паэт, публіцыст, рэжысёр і кампазітар, выступаючы аднолькава лёгка на польскай, французскай і англійскай мовах. Проста геній. Паляк па паходжанні і перакананасці. Але габрэй. Спаланізаваны ад пакаленняў, усё ж — габрэй. Так, неадназначная фігура, і выштурхнутая з канону нацыянальнай літаратуры. З грамадскай памяці... Які народ прызнаецца да сваіх прарокаў — у лобім вымярэнні іх велічы?!. Возьмем, напрыклад, Янку Купалу, сузаснавальніка беларускай літаратурнай мовы. Наколькі важны ён для сярэдняга беларуса? Які, дарэчы, пражываючы ў Беларусі, гаворыць хутчэй за ўсё па-руску. Для адукаванага — верагодна, нічога больш чым помнікавая згадка ў рускамоўнай энцыклапедыі. Для сярэдняга едака хлеба, які турбуецца аб сваім паўсядзённым жыцці — амаль нічога. Чалавечая памяць ненадзейная. А памяць грамадстваў пакручастая, як звіліны ракі Нарвы. Гэта адносіцца не толькі да беларусаў. Ад часу, калі палітычныя сілы пачалі ідэнтыфікаваць сябе з ідэалогіямі, а ўлады, якія з'яўляюцца пераможнымі выбарчымі эманацыямі гэтых ідэалогій, пачалі навязваць грамадствам сваю ўласную ідэю дзяржавы і народа, нішто не з'яўляецца бясспрэчным. Гісторыя, памяць, праўда... Сталі паяўляцца новыя нацыянальныя героі. У Польшчы ў апошні час — «Выклятыя». Тая ж тэндэнцыя прысутнічае ў Еўропе, якая была заўсёды шматмоўнай, але, па меншай меры, гістарычны аповед быў у яе больш-менш паслядоўным. Сёння гэтых аповедаў больш чым нацыянальных моў...

У дзяржаве тэрмітаў ідэалагічнае першынство вядуць навука і вера ў прагрэс. Перавага іхняй цывілізацыі ў параўнанні з цывілізацыяй мурашак — вечных ворагаў тэрмітаў — бясспрэчная. Прынамсі для саміх тэрмітаў. Не кажучы ўжо пра тых бясформенных істот — людзей — якіх марнае існаванне сярод атрутных газаў усюдыісных на паверхні зямлі (што таксама сведчыць аб іх прымітыўнасці) кідае цень на тэрмітнікі. Тым не менш, пагроза з іх боку рэальная, хоць і больш перабольшаная. Але гэта тлумачыць такі трывожны час для тэрмітаў. Іх грамадства пакутуе ад варажнечы і эканамічнай няроўнасці. Крайняя правіца абвінавачвае ў рэлятывізме сваіх палітычных праціўнікаў. Будучыні цывілізацыі тэрмітаў пагражае дэмаграфічны калапс, таму што каралева-маці, якой улада абмежаваная да прадстаўніча-рэпрадукцыйнай функцыі — мае праблемы ў псіхічным здароўі і пачала адкладваць яйкі нерэгулярна. У той жа час паліцыя арыштавала 50 мамак-работніц, што распаўсюджвалі небяспечныя ідэі сярод насельніцтва. На шчасце, жыццё звычайных тэрмітаў далёкае ад вялікіх ідэалогій, канфліктаў і праблем улады. Звычайнае жыццё насякомых. Ці таксама наша жыццё?

**Мірaслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Студэнцкая статыстыка

У мінулым тыдні ў гэтым месцы закрануў я тэму ўзроўню вышэйшай адукацыі, асабліва ў кантэксце колькасці студэнтаў у нашай краіне. Не хапіла месца на статыстычныя даныя, каб паказаць тыя працэсы, якія адбыліся цягам апошніх дваццаці пяці гадоў. У гэтым годзе матуральныя экзамены пісала 258 тысяч вучняў звышгімназічных школ, з чаго паспяхова здало іх 80 адсоткаў абітурыентаў. Большасць з іх з пачаткам кастрычніка далучылася да студэнцкай супольнасці. А ў акадэмічным годзе 2015/2016 было іх у Польшчы звыш 1,4 мільёна чалавек. Для параўнання некалькі даных, каб наглядна паказаць як змянялася сітуацыя з колькасцю студэнтаў пасля змен у законах з пачаткам 1990-х гадоў. І так навучальны год 1990/1991 — 390 409 ; 1997/1998 — 1 082 657; 2000/2001 — ужо 1 584 804 студэнтаў. Пік наступіў у 2005/2006 годзе, калі штудзіравала 1 953 832 асоб. Пасля пайшло паступовае скарачэнне ліку да сённяшняга паўтарамільённага ўзроўню. У доўгатэрміновым, дваццацігадовым прагнозе прыблізна на такім узроўні расцэньваецца колькасць студэнтаў у Польшчы. На фоне іншых краін Еўрасаюза ў Польшчы наглядаецца вельмі высокі адсотак людзей, якія паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Ва ўзроставай групе 20-24 гадоў 9 на 10 асоб вучыцца, калі ў іншых еўрасаюзных краінах сярэдняе арыфметычнае гэта 82 адсоткі.

У агульным ліку студэнтаў у Польшчы звыш 57 тысяч складаюць замежнікі, значыць каля чатырох адсоткаў. Рост колькасці студэнтаў-замежнікаў звязаны перш за ўсё з беспрэцэдэнтным прытокам маладых людзей з Украіны. У мінулым акадэмічным годзе вучылася ў нас амаль 31 тысяча ўкраінцаў, на 7 тысяч больш чым год раней. Штораз часцей гаворыцца пра ўкраінізацыю некаторых польскіх вышэйшых установаў. Такая з'ява ўкраінскай монакультуры, на думку навукоўцаў, можа ў бліжэйшай будучыні стаць прычынай канфліктаў з мясцовым грамадствам на нацыянальнай глебе. З другога боку гэта менавіта дзякуючы ўкраінцам яшчэ выжываюць ва ўмовах дэмаграфічнай дэпрэсіі некаторыя вышэйшыя школы. З даных Галоўнай статыстычнай управы вынікае, што другой найбольшай групай замежных студэнтаў з'яўляюцца беларусы (іх больш за 4,6 тысячы). На чарговых месцах апынуліся нарвежцы (1581), іспанцы (1407), шведы (1291). Апрача гэтага ў нашай краіне штудзіруюць яшчэ амаль 7 тысяч азіятаў, крыху больш за 1200 асоб з Паўночнай і Сярэдняй Амерык і крыху менш за 1200 з Афрыкі.

Яшчэ крыху засяродзімся на студэнтах з Беларусі. Значная іх частка прыязджае сюды, дзякуючы карце паляка і розным фондам, якія фінансава падтрымліваюць іх у навуцы. Ёсць і група, якая плаціць за сваю вучобу грошы, але не хоча штудзіраваць у Беларусі, дзе кошт платнага навучання падобны, але большая там карумпаванасць. Калі ўзяць яшчэ маладых беларусаў, якія з'язджаюць за вучобай у Расію, то праблема адтоку маладых мазгоў з краіны становіцца вельмі рэальнай праблемай. Большасць з іх пры сённяшняй палітычна-эканамічнай сітуацыі ў Беларусі не хоча вяртацца назад, шукаючы свайго месца ў замежных краінах.

Але вернемся яшчэ на наш беластоцкі панадворак. З афіцыйнай старонкі Беластоцкага ўніверсітэта я даведаўся, што на першы курс стацыянарных штудыяў прыняты 3503 асобы (першапачаткова планавалася набраць 3730 чалавек). З гэтага ліку 2531 чалавек то студэнты ліцэнцыяцкіх і суцэльна магістарскіх спецыяльнасцей. На штудыі другой ступені ў Беластоцкім універсітэце паступіла 972 кандыдатаў. На маё пытанне чаму маладыя людзі не хочуць працягваць навуку на магістратуры, мясцовыя навукоўцы адказваюць вельмі каротка: а каму патрэбныя дзве вышэйшыя адукацыі, калі аднаго ліцэнцыята дастаткова. Лепей шукаць працу і зарабляць грошы, чымсьці губляць так сёння запатрабаваны час прафесійнага досведу. Прытым з ліцэнцыятам, як дакументам пацвярджаючым атрыманне вышэйшай адукацыі, можна спакойна з'язджаць і шукаць працу за мяжой. Вось такую жыццёвую праўду распавялі мне і навукоўцы, і студэнты. Сумнай жыццёвай праўдай з'яўляецца і тое, што на беларускую этнафілалогію на Беластоцкім універсітэце не знайшлося ахвотных. Пакуль беларуская мова не пачне жыць афіцыйным дзяржаўным пульсам у Рэспубліцы Беларусь і не будзе на яе запатрабаванасці, то і не будзе ахвотных яе вывучаць, асабліва яшчэ па-за межамі.

**Яўген ВАПА**

**Старына і суседнія вёскі ўзніклі на пушчанскіх палянах. Продкі мясцовых жыхароў самі расчысцілі ў пушчы месцы для сельскагаспадарчай вытворчасці. Спачатку сяліліся яны сюды перш за ўсё, каб ахоўваць Белавежскую пушчу і даглядаць за пушчанскім лесам. Дзякуючы ім Белавежская пушча захавалася як самы лепшы, першабытны лес у Еўропе. Пасля Другой сусветнай вайны першапачаткова ўся пушча мела ўвайсці ў састаў Савецкага Саюза, але канчаткова мяжа падзяліла Белавежскую пушчу на дзве часткі. Жыхары пamежнай Старыны і суседніх вёсак ды іх госці 24 верасня прыбылі ў Старыну на беларускі фэст з цыкла «І тут жывуць людзі», арганізаваны Музеем і асяродкам беларускай культуры з Гайнаўкі, у супрацы з Гмінным асяродкам культуры ў Дубічах-Царкоўных. Старажылы прыгадалі, што музычнае мерапрыемства ладзілася ў Старыне вельмі даўно, а беларускага фэсту ў сваёй вёсцы нават не памятаюць.**



# Белфэст у Белавежскай пушчы

Па дарозе ў Старыну меў я нагоду захапляцца прыгажосцю Белавежскай пушчы. Аднак сумна было глядзець на малады лес, які вырас на палянах, дзе раней былі палі, з такой цяжкасцю асвоены ў мінулым для сельскагаспадарчай прадукцыі. Зараз у Старыне і суседніх сёлах засталіся жыць перш за ўсё старэйшыя людзі. Ім ужо не пад сілу апрацоўваць зямлю і змагацца з дзікамі. Таму частка палёў на пушчанскіх палянах была аблесена яе ўласнікамі. Сталі таксама паяўляцца самасейкі на неапрацоўваных палях і лугах. Мясцовае насельніцтва раней працавала ў пушчы драывасекамі і лясными даглядчыкамі. Калі апошнімі гадамі была ўведзена строгая ахова пушчы, а на тэрыторыі Дзяржаўных лясоў паўстала многа ландшафтных запаведнікаў, працы стала мала. У выніку маладыя выехалі за працай па-за сваю гміну...

Пасля вайны ў шматлюднай тады Старыне пабудавана была мураваная школа-«тысячагодка». Калі дзяцей стала менш, пачатковая школа ў Старыне была закрыта. Школьны будынак крыху пуставаў, а пасля быў ён наняты прыватным уласнікам для турыстычных мэт. Прыйшлося мне двойчы пабываць у будынку былой школы ў Старыне. Раз на Сустрэчах «Зоркі», другі раз на мерапрыемстве для настаўнікаў з Гайнаўкі, калі атракцыёнам была прагулка ад школьнага будынка да гранічнай паласы, дзе стаяў гранічны стоўб. За ім была Рэспубліка Беларусь, тады ўжо незалежная дзяржава, з нацыянальнымі сімваламі: бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня». Аднак ідэя турыстычнага выкарыстання школьнага будынка не апраўдалася і быў адчынены ў ім асяродак сацыяльнай апекі для састарэлых і асоб з абмежаваннямі, якія патрабуюць пастаяннай апекі. Насельнікі асяродка апекі былі аднымі з першых, якія склалі публіку белфэсту «І тут жывуць людзі».

— Я працавала ў апякунскім асяродку. Тады пражывалі ў ім асобы з аддаленых ад нас мясцовасцей Польшчы. Аднак я чула, што пасялілася асоба з Нарваўскай гміны, — сказала Эмілія Міхалоўская з Гурноўшчыны, якая прыбыла на беларускі фэст разам са сваімі дзеткамі.

Дашкольнікаў і вучняў у Старыне і наваколлі пражывае мала, але на фэст прыбылі гарадскія ўнукі. Калі выхадцы з вёсак выехалі за працай у Гайнаўку, Беласток і іншыя гарады, пустуючыя хаты сталі купляць прыезджыя з Польшчы. Мясцовыя прадавалі сваю бацькаўшчыну вельмі танна і гэта было дадатковым стымулам для прыезджых, каб набыць маёмасць у Старыне, Войнаўцы і іншых суседніх вёсках. Ёсць таксама выпадкі, калі выхадцы вяртаюцца на пастаяннае жыхарства ў свае бацькаўскія хаты, якія грунтоўна рамантуюць. Такой асобай з'яўляецца, між іншым, беларускі пісьменнік Міхась Андрасюк, які з Гайнаўкі вярнуўся ў родную Войнаўку. Ірэна Бобр з Круглага многа гадоў пражыла ў Беластоку і зараз вяртаецца на бацькаўшчыну. Разам з мужам будуе яна вялікі шыкарны дом у роднай вёсцы каля драўлянай хаты Рыгора Саевіча, яе бацькі.

— Апошняя музычная імпрэза ў Старыне адбылася з нагоды адкрыцця помніка ахвярам вайны. Я не памятаю, каб у нашай вёсцы арганізавалася беларускае мерапрыемства і таму мы так чакалі беларускага фэсту, — сказала солтыс Старыны Галіна Богун. — Цяпер нас тут мала, бо маладыя выехалі. У гэтай Старыне пастаянна жыве 9 асоб, а 2 асобы пастаянна пражываюць у другой Старыне. У Бобіньцы, што каля мяжы, жыве 10 чалавек, а ў Круглым пражываюць 3 асобы. Зараз не ведаю, колькі асоб жыве ў Гурноўшчыне, але іх там таксама нямнога. Нашы вёскі апусцелі, а тыя дамы, якія купілі прыезджыя, таксама ў халодны час пустуюць. Іх уласнікі прыязджаюць да нас летам, дзеля адпачынку.




Гурт «Рэтра Біт»



Марыя Саевіч з Вілюкоў прапанавала сыр і хлеб яе вытворчасці

Удзельнікі фэсту мелі магчымасць купіць здаровае харчаванне і тканыя на кроснах палавікі.

— Прыбытак ад гаспадарання на полі невялікі і я рашылася сельскагаспадарчыя прадукты перарабляць самастойна і прадаваць мясцовым і турыстам. Бульбу мы садзім толькі на свае патрэбы, бо дзікі яе з'ядаюць, — заявіла Марыя Саевіч з Вілюкоў, якая на фэсце прапанавала сыр і хлеб яе вытворчасці.

— Мы разам з солтысам са Старыны ўжо некалькі гадоў намагаліся арганізаваць у нас беларускі фэст. Сёлета ўдалося ажыццявіць нашу мару. Мы хацелі, каб з беларускімі песнямі калектывы выступілі падчас прыхадскога свята Успення Прасвятой Багародзіцы. Не атрымалася, але мы рады, што беларускі фэст адбываецца цяпер, — сказаў мясцовы радны з Гурноўшчыны Віктар Кэндысь, ураджэнец Круглага, які нядаўна змагаўся за вяртанне гэтай вёсцы яе гістарычнай назвы Круглэ (замест афіцыйнага Кронглэ, аб чым пісаў я нядаўна).

Іншай недарэчнасцю з'яўляецца назва «Wapienna Tryba», якая нібыта паўстала ад слова «вапна». Сапраўды, непадалёк ад Старыны праходзіць трыба, якая абапіраецца аб панадворак сям'і Вапаў у Доўгім Бродзе. Мясцовыя жыхары называюць яе Вапава трыба (Вапін трыб), паколькі продкі сям'і Вапаў займаліся ўтрымліваннем гэтай трыбы ў належным парадку, высякаючы кусты і дрэўцы на ёй. Каля Старыны ёсць вёска Гурноўшчына, якую афіцыйна назвалі «Górny Gród», а ў Дубіцкай гміне ёсць таксама іншыя вёскі і месцы, якім варта было б вярнуць сапраўдныя назвы.

Белфэст у Старыне адбываўся побач вялікіх старых дрэў і былога школьнага будынка. Калектывы выступалі на спецыяльна прыстасаваным для выступаў прычэпе, які быў пастаўлены на заасфальтаванай пляцоўцы. Публіка стаяла па абодвух баках дарогі. Працаўнікі Гайнаўскага белмузея прадавалі на фэсце беларускія кніжкі, вопратку з беларускімі надпісамі, народнае рукадзелле і кружэлкі з беларускімі песнямі. На фэсце можна было купіць таксама сувеніры і ласункі.

— Тут так даўно ладзілася беларускае музычнае мерапрыемства. Мясцовы мужчына назваў сённяшні дзень беларускім святам для мясцовага насельніцтва. Галоўная ідэя нашых белфэстаў з цыкла «І тут жывуць людзі» — арганізаваць іх у вёсках, дзе даўно ладзілася беларускае мерапрыемства, а людзі чакаюць выступаў з беларускімі песнямі. Мы фэсты ладзім у супрацоўніцтве з войтамі і гміннымі асяродкамі культуры. Часта мясцовыя ўлады звяртаюцца да нас, так як было ў выпадку Старыны. Здараецца таксама, што жыхары нейкага сяла непасрэдна нас просяць наладзіць у іх вёсцы фэст. Мы ў гэтым годзе фэсты з цыкла «І тут жывуць людзі» арганізавалі ў Кашалях, Мокрым, Лешуках, Койлах, Барысаўцы і сёння ў Старыне, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

Белфэст у Старыне, як і многія іншыя беларускія мерапрыемствы, ладжаныя Гайнаўскім белмузеем, удала вяла Марыёля Герман-Петручук. Яна спявае таксама ў калектыве «Арт-Пронар» з Нарвы, які запрэзентаваўся ў канцы фэсту. Спачатку перад публікай выступілі гурт «Струмок» і калектыў жанчын Гміннага асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Дубічах Царкоўных, якога дырэктар Іаланта Соха і дубіцкі войт Лявон Малашэўскі прыбылі ў Старыну. Пасля дубіцкіх калектываў выступіў гурт «Рэтра Біт», які складаюць музыканты, што ў васьмідзясятых гадах гралі на вясковых забавах на Гайнаўшчыне, і нядаўна створаны гурт «Давід Шымчук Бэнд» — абодва з Гайнаўкі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Юбілей гуртка

7 кастрычніка гэтага года гайнаўскі павятовы гурток Польскага саюза невідучых (ПСН) святкаваў 65-годдзе свайго існавання. Адначасова невідучыя святкавалі і традыцыйны Дзень белай палачкі (кожны год святкуюць яго восенню). Мерапрыемства вяла старшыня праўлення гуртка Аліцыя Пліс.

Пра мінулыя гады дзейнасці гуртка ПСН на Гайнаўшчыне распавёў Януш Пух, намеснік старшыні праўлення гуртка. Ён звязаны з гэтай арганізацыяй 25 гадоў. Шмат гадоў кіраваў ёю. Аповед быў спалучаны з адначасовым паказам здымкаў, зробленых пры розных нагодах шмат гадоў таму і сёлета. Многа фотаздымкаў было зробленых, між іншым, падчас краязнаўчых экскурсій, спартыўных спаборніцтваў для слабавідучых, летніх пікнікаў.

У сувязі з юбілеем гуртка невідучых гайнаўскія дзеячы ПСН былі ўзнагароджаны пачэснымі значкамі ПСН: Мікалай Янкоўскі — залатым і Зіна Смык — бронзавым. Пачэсныя значкі «Прыяцель невідучых» атрымалі Андрэй Скепка — намеснік бургамістра Гайнаўкі, Міраслаў Раманюк — староста Гайнаўскага павета і Лакальны дом самадапамогі (ранейшы Павятовы цэнтр падтрымкі) у Гайнаўцы.

Пасля афіцыйнай часткі мерапрыемства адбылася мастацкая частка ў выкананні слабавідучых: маладой дзяўчыны з музычным талентам Юліты Кічкайла ды жанчын Зіны Троц і Дароты Крулікоўскай, якія спявалі прыгожыя мілагучныя рускія, беларускія і польскія песні.

На заканчэнне сустрэчы невідучых быў падрыхтаваны салодкі пачастунак для ўсіх прысутных. Мерапрыемства прайшло ў цёплай, сардэчнай і мілай атмасферы. Было многа найлепшых зычанняў вытрымкі ў пераадольванні ўсялякіх нягод і цяжкасцей, здароўя і ўдач для невідучых ад прадстаўнікоў павятовых і гарадскіх улад.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Чаромхаўскі ГАК

Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе разгортвае ўсебаковую культурную дзейнасць, пачаўшы з кружкоў зацікаўленняў для дзетак і моладзі, а закончыўшы на арганізаванні выставак, аўтарскіх сустрэчах з цікавымі творцамі і агульнадаступных культурных мерапрыемствах для лакальнай грамадскасці. Да цікавейшых праектаў, рэалізаваных у рамках Падляшскага памоста культуры, можна залічыць «Наша малое тэлебачанне» — майстар-класы па журналістыцы, рэпарцёрстве, гуку, мантажу і абслугоўванні фотакамеры. У занятках удзельнічаюць вучні Пачатковай школы. У верасні, напрыклад, у майстар-класах удзельнічала рэжысёр дакументальных фільмаў Бэата Хыжы-Чалпінская. Ад 20 да 22 верасня Гмінны цэнтр культуры гасцяваў групу з 18 дзетак з абмежаваннямі (разам з апекунамі) з Мінска-Мазавецкага. Госці ўдзельнічалі ў супольных майстар-класах па вырабах з лямцу, саломапляценні і выконванні кветак з тонкай паперы. Паглядзелі выступ дзіцяча-маладзёжнага калектыву «Гілочка». Апекуны дзяцей-інвалідаў выказалі гаспадарам падзяку за сардэчны прыём.

24 верасня была арганізавана «Бульбяная субота», тыдзень раней, 18 верасня, ГАК быў суарганізатарам беларускага народнага фэсту, а 1 кастрычніка — мерапрыемства «Джэрэла — украінскія традыцыі і трансфармацыі». У рамках праекта Акадэміі традыцыі паспяхова зняў тры відэастужкі «Знікаючыя рамёствы», прысвечаныя ткацтву, саломапляценню і ганчарству. Унікальныя фільмы можна паглядзець на партале ГАК Чаромха на You Toube. Гэта некаторыя з цікавейшых форм дзейнасці Чаромхаўскага асяродка культуры. **(ус)**

# Арыгінальная Гандзя



— Я напісала песню, унучак навучыў мяне рэпаваць, — кажа Ганна Садоўская, у місцы мяшаючы салат. Гандзя з Валіл-Двара — майстрыха-кухарка. Вырабы яе рук і фантазіі бяруць галоўныя прызы на беларускіх фэстах у Гарадоцкай гміне. Як у вершыку «Гандзя наварыла»: *Пакуль пызаў наварыла, та і вершык сатварыла. Калі ласка, пакашутуйця, паднябення раскашуйця. Ой, пызулі ад Ганулі, з бульвы, мяса і цыбулі!* **Два гады таму на славутай Сяброўскай бяседзе Гандзіны пызы ў кулінарным конкурсе апынуліся на другім месцы, а вершык пра мерапрыемства — на трэцім.** Як на дэбютантку — лепш чым выдатна. Пакуль і ў «Ніве» пакажацца вершык Ганны «Коцік і лужа», напісаны спецыяльна для малых чытачоў, паявяцца яе простыя вершыкі на польскай і беларускай мовах у інтэрнэце. На гарадоцкай мове — адзначае Ганна. Як вершык «Чалавек»: *Не той чалавек е багаты, што пад небо ўзносіць хаты і залатыя мая шаты. Той чалавек багаты, каторы мая сэрца залатое, і Бог ні міная яго скромнай хаты!* Пасля Ганна аднаўляе падпіску на «Ніву», якая заўжды была ў іхняй хаце ў вёсцы Валілы. Звычайна, пытаецца ў лістаношы, як гэта можна найпрасцей зрабіць, а ён і робіць ёй падпіску праз гарадоцкую пошту. «А што то людзі кажуць, што пошта не хоча пранумараваць газет, як то калісь было, што лістаноша валок па вёсках торбу поўную газет, сярод якіх штотыдзень было бярэмя «Ніў». Хочаш, то і падпішашся, і лістаноша газету прывязе нават у такую глуш, як нашы Валілы-Двор. О, прачытала я ў «Ніве» пра Юрку Геніюша. Я і не ведала, што мой любімы дзіцячы доктар, да якога вазілі мяне маленькай, сын Ларысы Геніюш і такі паэт!»

Гандзя ў сваёй вялікай кухні ў «дворскім» блёку адпраўляе свае кухарскія чары-мары: і быццам бы з нічога на талерцы вырастаюць каляровыя стравы. Увіхаецца пад яе бокам і ўнучка Мая, а побач сядзіць Гандзін нетутэйшы муж, але ж самы свойскі і родны — васільковавокі Павел-Генрык-Пётр, якога знайшла аж на Мазурах.

— Няма больш нашага хлопца, як мой Павел. І ў царкве шлюб мы бралі. Дбае пра мяне. Каб не ён, тромбафлебіт пакончыў бы мяне. Павел пільнуе мяне. Колькі раз мела я ўколы ў жывот, колькі таблетак. Вядома, чым то пагражае! — але больш рухавай і здаровай пары, як Гандзя і Павел, хіба і не знойдзеш ва ўсёй гміне. Гляньце, як «выкручваюць» на фэстах у Белявічах, у Барыку, на забаве ў Валілах-Двары, на гарадоцкіх гмінных дажынках! Узʼяднала іх таксама пасія да танца і досціп. У апошні час — удалыя ўнучаняты, якія з гонарам услаўляюць прозвішча Садоўскіх. Адна з унучак — спартсменка са славутай на ўсю краіну дзявочай зборнай Гарадоцкай гміны ў хакеі з клюшкай на траве. Мая танцуе ў гмінным калектыве, а Віцька прэцца на сцэну. Толькі ў школу сабраўся ісці, а ўжо спявае разам з «Прымакамі», між іншым песню «Месяц па небе ходзіць», чысценька па-беларуску.

— А я з прабабуляй умею па-свойму гаварыць! — хваліцца хлапчынка ды бярэцца рабіць фоту дзеду маім цяжкім рэдакцыйным фотаапаратам. Харошая фатаграфія: трапна ўлавіў тую дзедаву васільковасць вачэй! — Бабця, скажы маёй маме, каб мяне запісала на беларускую мову, цёця Міра кажа, што тыя, што вывучаюць мовы — разумнейшыя!

Унучка Мая таксама хадзіла на беларускую мову.

— Я вельмі здзівілася, што дачка яе выпісала з урокаў беларускай мовы. Жывуць у Гарадку. Быццам бы Мая мае штораз больш заняткаў у школе і тыя танцы ў танцавальным калектыве, і ўжо ў яе няма часу на беларускую мову.

Мая абхоплівае паўпол сваю маладую маму з фіялетавым іракезам: «Мама, запішы мяне зноў на беларускую мову, я маю час каб яе вывучаць!». Здаецца, для Маінай мамы тая прага не здаецца быць сурʼёзнай: «Мала то дзецям хочацца розных фокусаў!». А дзяўчынка аж гарыць і паглядае на бабулю. А Віцька падскоквае да мамы з другога боку і шчыльна яе прытуляе: і ён хоча! І ён вывучыць і польскую, і беларускую, і англійскую! Так як хутка асвоіў нетыповы фотаапарат і сам на Юцюбе вывучыў песню «Прымакоў» пра каханне і можа яе выконваць на галасы, цягнуць мелодыю як пані Багуся, і на Юркаў лад! А як спрытна трымае мікрафон! Проста, прафесіянал у свае шэсць гадоў!



Ганна і Віктар Садоўскія

Бабуля Гандзя таксама і пра каханне піша, спраўна, меладычна. І з гумарам. Віцька гатоў заспяваць бабуліну песню, у якой няма яшчэ мелодыі, але ноты самі складваюцца: Вось «Два дубочкі». *Выраслі ў полі зялёны дубочкі. Пад дубамі размаўлялі два галубочкі. Першы галубочак — сінявокі Ваня, другі дубочак — чарнаброва Маня. Размаўлялі пра любоў, пра сваё кахання, прасядзелі пад дубамі да белага рання. Што са мною будзя, — плача міла Маня, — бацька з хаты пражане, ратуй мяне, Ваня... Ваня ўсміхнуўся, уверх падкінуў шапку. — Ні плач, Маня, пойдзем у хату, выпʼем з бацькам цьвяртку. Ваня ўзяў Сцяпана, ідуць у сваты. Бацька на парозі крыкнуў: — Вы куды? — Бацька мілы, дарагі — у сваты да Манюлі. Мы з Манюляй пад дубамі нарабілі гулі-гулі. Не шкадуй мне, добры бацька, сваёй роднай дочкі. Будуць унукі здаравенькі як у полі дубочкі!*

Гандзя чытае верш, унучак цэлы аж варушыцца, а муж-паляк, здаецца, співае словы з жончыных вуснаў. Чуе сваю Гандзю! Разумее верш. Хаця пра нейкую літаратуру былыя «пэгеэраўцы» дыспут не вядуць. Але людзям падабаецца, як Гандзя адважна ўскочыць на сцэну, заехаўшы з фасонам на матацыкле. Скажа і нейкі вершык па-польску, дзеля сабранай кампаніі, але і на роднай мове скажа верш. Ад таго рэпу пра Арыгінальную Ганку-Рыфмаванку гледачы проста пакоцяцца на лаўкі амфітэатра. Ці то на хуткую руку складзенага з дошак у Валілах-Дварах, ці ў Гарадку над вадасховішчам больш шыкоўным.

— Адважная наша Гандзя! — кажуць жанчыны з групы «Але Бабкі», дзе рэй вядуць дзяўчаты са Случанкі. І яны заспяваюць, і спякуць такое смачнае, што проста «неба ў гембі», і запрапануюць гасцям, добра пры гэтым самі гуляючы. І дагадзіць смаку трэба ўмець, і для душы штосьці запрапанаваць: Я *капусты наварыла, засквaрыла салам. Мужыка карміці буду, бо з работы прыйдзе зараз. Вельмі ён працуе цяжка, варты супу ён з засмажкай. З бульвай капусты яму давай! Мой мужык — не гультай. Вось табе і галоўка капусты. І мая ж галоўка — няпуста: пакуль капуста булькатала, Гандзя яшчэ і вершык склала.*

— Ну, мой фацэт проста *заефайны*! На ўсе нашы вёскі. І нашы вёскі таксама вельмі цікавыя, жывуць тут добрыя людзі. Напісала я таксама пра сваю вёску Валілы, адкуль я родам. Прачытаўшы ўспаміны Ірэны Матысюк, найшлі і на мяне ўспаміны пра сваю школу ў Валілах. Сем гадоў я хадзіла ў гэтую школу, ужо восьмы клас канчала ў гарадоцкай зборнай гміннай школе, дзе выхаваццелем быў незабыўны Павел Кандрусік, святой ужо памяці. Не забуду яго слоў: «Грамадзянка Тарасэвіч, устань і падыдзі да дошкі». Пан Кандрусік быў суровы, але за сваім класам пайшоў бы і ў агонь. А мая адукацыя пачалася так. Аднойчы да нас дахаты прыйшла настаўніца Марыя Варабей і спыталася: «Аня, ці ты хочаш ужо ісці ў школу?». Усцешаная, сказала, што так. Дык загадала паскакаць на скакалцы дзесяць разоў, палічыць на пальчыках да дзесяці і заспяваць нейкую песню. Вось такі быў у мяне першы экзамен. Міла ўспамінаю сваю адукацыю ў нашай школе, сяброў, настаўнікаў. Была я «зухам», гарцэрам, прымала ўдзел у школьных прадстаўленнях, спявала песні, дэкламавала вершы... Будынак нашай школы цяпер у вельмі добрых руках — славутага мастака Лёніка Тарасэвіча. Не ведаю, ці ў нас ёсць супольныя продкі, хаця ў нас такое ж прозвішча. Лёніка памятаю яшчэ з юнацкіх гадоў, калі мы падскоквалі на першых забавах, а Лёнік іграў тады на нейкім інструменце, здаецца, ці не на бубнах! Цешыць мяне тое, што ўцалеў будынак нашай школы. Наша школа мае ў сабе душу, гэтую душу і добрую энергію пакінулі там Ян Сянкевіч, дырэктар, настаўнікі і вучні. Асобы, якія выйшлі з нашай школы, зайшлі высока сярод людзей. Між іншым, вучыліся там юрыст Сяргей Шэрэмета, Марыя Мялешка ў дзявоцтве Дзянісік — вядомая мастачка, інжынер-будаўнік Міраслаў Трахімчык, настаўніца Анна Варабей... Трэба ўспамінаць былое, пільнаваць, каб не сцерліся сляды. Можна гэта рабіць таксама ў вершаваным слове, хто як умее. І каб мова не прапала, не забылася...

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Дзяды. Брэсцкая крэпасць



Злева: Марына Дашук, Мацей Халадоўскі, Павел Пасіні і Патрыцыя Даловы

**Некамфортна аглядаецца тэатр у кіно. Пераканаліся аб гэтым госці апошняга мерапрыемства, зладжанага ў рамках сёлетняга Тэатральнага фестывалю «Одэ». Мова пра відэазапіс спектакля Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы «Дзяды. Брэсцкая крэпасць» ад 8-10 верасня 2015 года.**

**Не пра камфорт гледача тут ідзе, а пра высакародныя мэты. Гэты своеасаблівы мастацкі эксперымент узнік з патрэбы захавання беларускага перакладу вялікага твора Адама Міцкевіча і нецэнзураваных тэкставых дабавак датычных сучаснасці аўтарства Патрыцыі Даловы.**

— Цікава, якімі былі б сённяшнія загаворы (гусла), хто быў бы іх героем, — задумваецца рэжысёр спектакля Павел Пасіні.

Серж Мінскевіч і Сяргей Кавалёў шэсць гадоў перакладалі тэкст. Немалы кусок жыцця, таму і вынік іх працы можна назваць жыццёвым. Акцёры Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы думалі, што гледачам, пераважна рускамоўным, будзе ён незразумелым. Ім самім прыйшлося вывучаць на гэтым спектаклі сваю мову. Цяпер ганарацца. «Цёмна людзі, глуха людзі, штосьці будзе, штосьці будзе». Гэта вяртанне да пачутага яшчэ Міцкевічам арыгіналу. Трансовая рытміка і фанетычная кампазіцыя гэтай фразы — складовай другой часці «Дзядоў», завяршаючай «Дзяды. Брэсцкую крэпасць», разагравае акцёраў, быццам футбалістаў перад фінальным матчам. Яна выдатна суіснуе з выкарыстанай у спектаклі так характэрнай праваслаўнай царкве на ўсходзе юрадзівасцю.

— Загаворы гэта рухаючая сіла ўсіх частак «Дзядоў», — гаворыць рэжысёр спектакля, — усе справы імкнуцца да справядлівага завяршэння і трэба ім у гэтым дапамагчы.

У ролі гаспадара дыскусіі пасля дэманстрацыі фільма выступіў добра вядомы чытачам «Нівы» Мацей Халадоўскі. Побач з ім на сцэне беластоцкага кінатэатра «Форум» заселі драматург Патрыцыя Даловы, рэжысёр і музыка Павел Пасіні і каардынатар Марына Дашук.

Размова вялася, у асноўным, вакол вельмі сёння папулярнай тэмы сацыяльнай памяці.

**Ствaральнікі спектакля хаваюць ці ўваскрашаюць грамадскую памяць?**

Павел Пасіні:

— Перш за ўсё мы стараліся зрабіць тое, што робіць Міцкевіч, а менавіта паставіць далейшы лёс грамадства ў залежнасць ад вырашэння справы з памяццю. Сабраныя ў магільнай капліцы аддаюць сваё цела нейкім галасам. Галасам памерлых, якіх справы засталіся нявыказанымі. Прытым гэтая праблема тычыцца жывых і ім яе вырашаць. Папаўшы ўпершыню ў Брэсцкую крэпасць, мы выпадкова аказаліся ў забароненым памяшканні, запоўненым безліччу кускоў мацэваў. Даведаліся таксама, што ў час ліквідацыі брэсцкага гета на працягу аднаго тыдня насельніцтва горада скарацілася на цэлых дваццаць тысяч чалавек. Зямля, якой засыпалі людзей, рухалася яшчэ некалькі дзён. Гэта там сядзіць. Пра гэта не гаворыцца. Мы павінны аддаць сваё цела гэтым галасам, дазволіць ім выказацца.

**Гэты спектакль мог узнікнуць у розных месцах,** так як памяць не бывае палітычнай, яна заўсёды індывідуальная.

— Гісторыі маіх суразмоўцаў не ляжаць на паверхні, але калі да іх дакрануцца, яны зараз з-пад гэтай паверхні вылазяць, — кажа Патрыцыя Даловы. — Гэтыя гісторыі цісnуліся ім у вусны. Дастаткова было толькі захацець выслухаць. Каб пахаваць, найперш трэба адкапаць. Калі мы не перапрацуем памяці, калі гэтыя гісторыі не выявяцца, ніколі іх не пахаваем. На гэтым пабудаваны таксама сам абрад беларускіх дзядоў.

Павел Пасіні:

— **Перспектыва спектакля** зусім не палітычная, хаця спектакль, як і самі «Дзяды» — палітычны. Невядома хто мы ў гэтай раздачы, ніхто з нас да канца не ведае хто ён: паляк, жыд, беларус, украінец? Вырашае тут не толькі сувязь крыві, але і тое, хто каму дапамог, выратаваў ці пашкодзіў. Нашы гісторыі зблытаныя і ў кожным з нас ёсць магчымасць, каб быць кім-небудзь. Так склалася, што цяпер сяджу тут і гавару па-польску, а не, для прыкладу, па-расейску. Нам неабходна рыхтаваць гэтую прастору і вырашаць справы з душамі, таму што яны нас наведваюць, не даюць нам спакою. Калі мы іх не вырашым, вернуцца ў наступных пакаленнях і нехта зробіць сабе з гэтага збройны чын.

**Пра публіку**

— Нягледзячы на цэнзуру з боку адміністрацыі тэатра, людзі прынялі гэты спектакль выдатна, — гаворыць каардынатар Марына Дашук.

— Дзякуючы «Дзядам» у адзіным драматычным тэатры Брэста з'явіліся новыя гледачы, — дадае Павел Пасіні. — Яны засвоілі прастору тэатра, назвалі яе сваёй, захацелі туды вярнуцца. Ёсць такія, якія не прапусцілі ніводнага нашага спектакля.

**— Чаму вы захацелі распавесці пра праблему апрацавання памяці мовай «Дзядоў»,** прытым дастаткова адлеглай ад мовы Міцкевічавага арыгінала? — пытае выкліканая да мікрафона Катажына Савіцка-Мяжынска.

— Пераставак тут няшмат, — заўважае Павел Пасіні. — Адна з іх гэта сапраўдная гісторыя, з якой бяруць свой пачатак Міцкевічавы «Дзяды». Яна паказвае, што такое польскі ці беларускі лёс. У Кейданах ксёндз-дырэктар гімназіі вырашыў расправіцца з аўтарам надпісаў «Канстанцін, наша рука цябе дасягне», якія з нейкага часу паяўляюцца на школьных сценах. У сувязі з гэтым паклікаў самага лепшага следчага Навасільцава. Выявілася, што аўтарам надпісаў з'яўляецца сын ксяндза. Бацьку з сынам саслалі на катаргу ў Сібір.

На думку навуковай даследчыцы абраду дзядоў доктар Гражыны Харытанюк-Міхей, дзяды як абрад раўназначныя з дзядамі-памяццю. Гэта тычыцца памяці пра сям'ю, блізкіх, гістарычнай памяці. Невыпадкова ў спектаклі паявілася Брэсцкая крэпасць. Але пацярпеў кожны беларускі горад. Ніхто не пытае чаму. Чаму забілі гэтага, а не іншага, чаму спалілі гэтую, а не іншую вёску. Адказу ніколі не даведаемся. Засталіся толькі факты, якія можам успрыняць.

Спектакль з'яўляецца сумесным праектам Інстытута Адама Міцкевіча, сайта CULTURE.PL, Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы, інтэрнэт-тэатра «neT-Theatre» і Аб'яднання артыстаў «Bliski Wschód». Узнік пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# «Васілёчкі» — жывуць...

Хор песні і танца «Васілёчкі» культурны сезон 2016 г. перажыў працавіта, — у частых рэпетыцыях і выступленнях. Многа раз паказвалі сцэнкі з абрадамі. Самымі масавымі культурнымі мерапрыемствамі, у якіх прымалі ўдзел, былі «Сяброўская бяседа» ў Гарадку і «Купалле» ў Белавежы. Радасна праводзілі час і на сцэне, і сярод публікі.

1 кастрычніка хор «Васілёчкі» меў гонар па запрашэнні Рэспублікі Беларусь пабываць на ўрачыстасці-мерапрыемстве «Маладосць душы» з нагоды Дня сталых людзей у Кобрыне. Гэты горад — пабрацім Бельску, таму хор паехаў у госці пад крылом спадарыні дырэктаркі Бельскага дома культуры Малгажаты Біль-Ярузельскай. Пры сустрэчы ў агромністым Палацы культуры Кобрына з начальніцай аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Кобрынскага райвыканкама Надзеяй Жук і дырэктаркай Палаца Валянцінай Пакалюк — з боку глянуць — сустрэліся тры сястры. Свята пачалося з уручэння ўзнагарод заслужаным сталым людзям. Вялікую да іх падзяку і пашану было чуваць і відаць. Хор прывітаў публіку хлебам і соллю ды такой жа песняй. Публіка ў зале нас ачаравала, больш за паўтысячы месцаў было занятых, чаго мы даўно не бачылі! Кожны выкананы нумар зала падхоплівала бурнымі апладысментамі, нават стоячы — гэта хваліое, але і абавязвае аддаць ад сябе ўсё, што можам. У праграме былі не толькі беларускія, але і рускія, польскія, украінскія і яўрэйскія песні. У такім цёплым і шчырым духу дзевяноста хвілін праляцелі хутка. Далей гучалі багатыя словы падзякі, былі падарункі, танцы пад духавы аркестр, ну і сытая вячэра. «Васілёчкі» знаёміліся з членамі хору, людзьмі сталага ўзросту, якія на прафесійным узроўні цудоўна выконвалі песні. І так была магчымасць нанова ўбачыць маладосць душы беларусаў сталага ўзросту.

Такая сустрэча не адбылася б без таленавітых, працавітых, добрых людзей — дырыжораў спадарства Мікалая і Людмілы Фадзіных з Гродна.

З павагай і падзякай для ўсіх — член хору «Васілёчкі»

**Уладзімір ВЕСЯЛОЎСКІ**

# Сонца на дыване

У Гайнаўскім доме культуры адкрылі выстаўку 20 мастацкіх тканін чатырнаццаці ткалляў з Гайнаўскага павета. У гэты раз вядучай тэмай было СОНЦА. Сонечны вобраз, яго экспрэсію і колеры трэба было як найбольш умела ўкласці ў спляценне нітак габелена або дывана. Нялёгкая была гэта задача. Вопытныя ткачыхі прысвяцілі на гэта многа часу. Спатрэбілася ім адпаведная пража ў розных колерах і адценнях. Але ж не дарма папрацавалі. Эфекты іх намаганняў відаць на адмысловай выставе.

На экспазіцыю трапілі працы Іаланты Антоўскай, Галіны Цагелка, Яніны Цвалінскай, Людмілы Якімюк, Зінаіды Якуць, Дануты Каліноўскай, Малгажаты Краўчык, Мартыны Кухарскай, Анны Леанюк, Лідзіі Назарук, Ніны Ажахоўскай, Дароты Сенюць, Галіны Словік-Кендысь і Ліллі Жох.

Выстаўку габеленаў і дываноў у ГДК можна агледзець да канца кастрычніка гэтага года. Арганізатары запрашаюць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Восеньскія заняткі ў Міхалове



Увосень каляровыя дрэвы і каляровыя думкі дзяцей. Нас захапляюць пазалочаныя дрэвы ў парку, чырвоныя яблыкі ў садах і разнаколерныя плады на градках у агародзе.

Здзіўляе трава, якая з дня на дзень мяняе адценні колераў, звяры, якія мяняюць футра. Мы адчуваем, што ўся прыгожасць — часовая. Пасля яе прыйдуць дажджы, шэрань, мароз, снег. Можа таму так моцна хочацца затрымаць каляровы настрой восені ў вершах, малюнках, гульнях і забавах...

У час сустрэчы з наймалодшымі навучэнцамі беларускай мовы ў Міхалове, мы зазірнулі ў сшыткі дзяцей. А там сапраўдныя галерэі: разнаколерныя дрэвы, краскі, сімпатычныя зяркі і вясёлыя гульні дзяцей. Беларускія падручнікі шмат увагі адводзяць маляванню і гэта мае свае паслядоўнасці. Калі вучні размалююць усе задачы ў кніжцы, яны прыдумваюць падобныя гісторыі ў сваіх сшытках. Падказкі нашэптвае залаты пейзаж за акном, сонечны шпацыр і дарога ў школу. У такі час таксама хочацца спяваць і складаць вершы, чытаць казкі і слухаць расказы настаўніцы.

Усё гэта прадставіла нам вясёлая кампанія трэцякласнікаў з Міхалова. Спачатку іх немагчыма было адарваць ад малюнкаў. Пасля ўсе хацелі расказаць пра прыгоды. Найбольш увагі выклікалі падарожжы да казачных персанажаў. Год раней яны пабывалі ў Белавежскай пушчы ў Дзеда Мароза. А зараз Міхалова збіраецца ў Беласток на балет на лёдзе, які пакажуць прафесіяналы-балетмайстры з Масквы.

*Зорка, фота ГК*

# Юбілей беластоцкай «чацвёркі»



Беластоцкай школе № 4 — 60 гадоў! Яна, як і рэдакцыя «Нівы», была заснавана ў 1956 годзе і налічвала тады больш за восемсот вучняў. З 1997 года ў ёй адбываюцца ўрокі беларускай мовы. Ад пачатку вядзе іх настаўніца Аліна Ваўранюк, аўтарка падручнікаў, апякунка і душа школьнага тэатра і шматлікіх мастацкіх і этнаграфічных праектаў.

Юбілей, які праходзіў 7 і 8 кастрычніка г.г., меў двайны характар — 20 гадоў таму школе прысвоілі імя Сібіракоў. Хоць гэтая тэма была вядучай, часта ў ролі пазітыву ўспаміналася беларуская мова. Свята ўдастоілі вядомыя госці, сярод якіх былі саноўнікі, дырэктары школы, літаратары, музыканты, палітыкі, грамадскія дзеячы.

Сярод ганаровых гасцей мы прыкмецілі двух дзіцячых аўтараў — Гжэгажа Касдэпкэ (ён — выпускнік школы) ды нашага Віктара Шведа. А цудоўным дапаўненнем мастацкай праграмы было выступленне Марысі Пякарскай, якая праспявала песню «Белы караблік» на словы згаданага Віктара Шведа.

**Зорка,**
**фота Ганны КАНДРАЦЮК**

*Міра ЛУКША*

# Глог

*Ці ў куст, ці ў дрэва ўзрасце,*
*да трохсот гадоў дажыве.*
*Праз пятнаццаць гадоў зацвіце,*
*кармінавым лістом ападзе.*
*Яблычкападобным пладом*
*здароўе прынясе ў наш дом.*
*Тваё сэрца як звон будзе біць,*
*калі з глогу лякарствы папіць,*
*са смачных, сопкіх і сочных пладоў.*
*З глогам пражывеш сто гадоў!*
*Ды за дзень — шклянку ягад,*
*не больш.*
*Леку смачнага ж не перабольш!*
*А з калючак глогу — цвікі*
*ў старадаўнасці будаўнікі*
*ўбівалі для мацунку ў дамы.*
*Глогам цэлым мацуймася мы!*

# УВАГА КОНКУРС! № 42-16

**Хто бязгучна мякка ходзіць,**
**Хто без рук павекі зводзіць?**
**Не відаць яго нідзе,**
**А на ложак спаць кладзе.**
**С..**
**(У.Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 23 кастрычніка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 39: мядзведзь. Узнагароду, наклейкі, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Беларускія сляды ў Беластоку — прапанова для школ

Беларускі Беласток — гэта сайт, які асвятляе важныя для беларусаў асобы і месцы ў сталіцы рэгіёна. Аўтар, малады хлапец з Мінска, хацеў, каб беларусы, якія прыязджаюць да нас за пакупкамі, пацікавіліся беларускімі слядамі ў Беластоку. На віртуальнай карце пазначаны асобы, установы, падзеі. Праект цікавы не толькі для грамадзян РБ, але і жыхароў Падляшша ды саміх беластачан. А ўжо напэўна павінны з ім пазнаёміцца нашы навучэнцы беларускай мовы. 28 верасня беластоцкія гімназісты нанова адкрылі свой горад. Іх гідам быў сам аўтар сайта Аляксей Трубкін. Вось як напісала нам арганізатарка вандроўкі, настаўніца Альжбета Рудкоўская:

Аляксей — гэта сапраўдны пасіянат, а праца, якую ён зрабіў, выклікае нашу вялікую пашану. Ён паказаў нам месцы, звязаныя з беларускай культурай і гісторыяй. Частка будынкаў ужо фізічна не існуе. Вучні даведаліся пра Таварыства беларускай школы, пра Тэатр «Палац», у якім выступаў сусветнай вядомасці спявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Даведаліся, што ў Драматычным тэатры адбыўся Народны сход Заходняй Беларусі, а ў беластоцкай кафедры (якая ёсць дабудовай да малога белага касцёла) знаходзіцца вітраж з выявай св. Кунцэвіча з Сафійскага сабора ў Полацку. Пераходзілі побач першай сядзібы БГКТ і ўсіх сядзіб «Нівы». Экскурсія па родным горадзе захапіла, дазволіла нам нанова пабачыць Беласток.

Гэта таксама найлепшая прапанова для нашых сяброў, якія прыязджаюць з экскурсіяй у Беласток. Замест ісці ў гандлёвую галерэю ці заапарк, можна пашырыць свае веды.

**(гак)**

*фота Альжбеты Рудкоўскай*



Беластоцкія гімназісты з Аляксеем Трубкіным ля першай сядзібы «Нівы»

Ізабела ГЕЛЬМАН, ПШ у Міхалове

## Свет

Белая птушка хаваецца ў дупло,
Хітрая лісіца мае сваю хату.
Спакойная вавёрка скача вясёла,
Глядзіць на свет звысоку.
Жабы даўно ўжо пахаваліся,
Зімачкі пабаяліся.

Маргарыта БУЧАК, ПШ у Міхалове

## Здароўе

Нашы рукі працуюць ад маленства,
Ногі ходзяць,
калі паспеюць навучыцца.
Трэба аб здароўе клапаціцца,
Адзін разок нам усё дае Бог.

Міхась Рудзішкін,
Мікола Хамякоў

## Малюю сам

Вецер. Дождж шэры.
Мокнуць журавы.
Вырас на паперы
Клён мой, як жывы.

# Вершы Віктара Шведа



## Малпы ў клетках

Татка з сыночкам Яркам
У вольны час улетку,
Пайшлі да заапарку
Да малпаў у стальных клетках.

— Скажы мне, татка ласкавы,
Ці знікнуць над малпай здзекі,
Калі яна неўзабаве
Станецца чалавекам?

## Будзь выдатнікам

Янка збіраецца ў школу
— Выдатнікам ты быць мусіш
З бацькоў сваіх дазволу —
Сказала з павагай мамуся.

Як будуць тройкі толькі
Дык будзеш тры разы біты.
— Тады прынясу вам двойку,
Сказаў сыночак сярдзіта.

*Замкі і палацы Беларусі*

# ГАЙЦЮНІШКІ — ЗАМАК РАМАНТЫЧНЫХ СУСТРЭЧ

Гэты замак маленькі і адзіны ў сваім родзе. Часта яго называюць сядзібай. Збудаваў яго галандскі інжынер-эмігрант Пётр Нонхарт у 1613 годзе. Нягледзячы на невялікія памеры (15 на 34 м) ён мае ўсе прыкметы абарончай будоўлі: сцены на 1,5 м таўшчыні, чатыры вежы, пад'ёмны мост, прытым будоўлю акалялі высокі зямны вал і равы. У падвалах знаходзіўся спецыяльны калодзеж, які дазваляў выжыць у час працяглых абстрэлаў і штурмаў.

Нават у гады Паўночнай вайны (1700-1721), калі пацярпелі амаль усе замкі Беларусі, Гайцюнішскі замак не быў пашкоджаны і нездабыты.

Пасля смерці Нонхарта замак перайшоў у рукі мастака Шрэтэра, які памаляваў пакоі ў сцэны з палявання. Матыў пасаваў да балотна-ляснога ландшафту заходне-паўночнай Беларусі. Замак вядомы таксама з-за адной жанчыны-музы. Нейкі час у Гайцюнішскім замку пражывала Марыя Верашчака, праслаўленая Адамам Міцкевічам. Паэт-рамантык часта прыязджаў у госці да Верашчакаў, каб натхняцца чароўнасцю каханай і месца. Яны адлюстраваны ў літаратуры як недасяжны ідэал.



**(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 42-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 38:**

Нос, Ага, базар, Ас, ар, неба, небасхіл, тэатр, но, агат, галяк, ода, яда. Картка, га, Об, нагша, санет, то, зебра, жаба, расада, ля, яд, Ас, лодка.

Узнагароду, запісную кніжачку з каляровымі лісткамі, выйграла **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Nieszczęście
Art
Targ
Spadochron
Ławka szkolna
Piecyk
Ty
Torba
Koza
Kort
Most
Honor
Czas
Marzenie
Mysz
Ha!
Mózg
Kosz
Kreska
Ach!
No
Pomidor
Koszt
Usta
Chór

# Мае падляшскія дзевяностыя

Прачытаў я кнігу «Disco polo, Wiedźmin i gumy kulki czyli III RP oczami Niekrytego Krytyka» папулярнага інтэрнэтнага шоўмена, радыёжурналіста, абітурыента англійскай філалогіі Мацея Фрончыка. Ён пад псеўданімам Niekryty Krytyk змяшчае свае фільмы на партале YouTube, а іх людзі перагледзелі 200 мільёнаў разоў. Дзякуючы гэтым фільмам здабыў ён вялікую папулярнасць, а таксама дастаў пасаду ў адной з самых папулярных радыёстанцый у Польшчы — Радыё «Zet». Ён (1984 года нараджэння) — голас нашага пакалення, які з сарказмам, іроніяй ды вялікім гумарам у сваёй кнізе ў сімвалах апісвае 1990-я гады. Тады прыпалі мае і аўтара дзяцінства ды маладосць. Вядома, кожны меў свае сімвалы дзевяностых гадоў. Таму я вырашыў прадставіць свае асабістыя сімвалы 90-х гадоў, такія нашы — падляшскія і беларускія. Вось яны:



**«Пад знакам Пагоні»**

Першая беларуская радыёперадача, якую я слухаў ад панядзелка па чацвер ад 18:45 па 19:00, у пятніцы ад 18:30 па 19:00, у суботы ад 18:30 па 19:00, а ў нядзелі ад 8:30 па 9:00. Гэта было акно на наш беларускі свет. Там былі навіны з Беласточчыны і з Беларусі. Перадачу вялі Юрка Ляшчынскі, Яраслаў Іванюк, Уладзіслаў Праховіч і Марк Забродкі. Кожная перадача мела сваю тэматыку і свой стыль. Асабліва я любіў слухаць перадачы Уладзіслава Праховіча, які браў інтэрв'ю ў беларускіх гуртоў. Можна было пачуць новыя беларускія песні гуртоў з Падляшша і Беларусі. Перадачы «Пад знакам Пагоні» я слухаў на радыёпрыёмніку «Верас» беларускай вытворчасці.

**Данчык**

Беларускі спявак з Канады, які быў вельмі папулярны ў канцы 1980-х і на пачатку 1990-х гадоў. Сын беларускі і ўкраінца. Беларускі салавей Канады. Музычны стыль — аўтарская музыка на вершы вядомых беларускіх паэтаў. Яго песні часта гучалі ў перадачы «Пад знакам Пагоні». Па сённяшні дзень сэмплы яго песень з'яўляюцца джынгламі гэтай перадачы. Зараз Данчык — журналіст Радыё Свабода. Маю яго арыгінальны кампакт-дыск з яго песнямі і відэаканцэртам.

**«Беларускі канцэрт пажаданняў»**

Па суботах ад 18:05 да 18:30 у эфіры Радыё Беласток гучаў і надалей гучыць «Беларускі канцэрт пажаданняў», які вёў Уладзіслаў Праховіч, легендарны беларускі журналіст Радыё Беласток. Тут можна было пачуць пажаданні для беларусаў Беласточчыны — простых жыхароў Падляшша, якія перадавалі ім дзеці, унукі, сябры, віншавалі іх з розных нагод на беларускай мове, а да таго заказвалі беларускую песню ў выкананні падляшскіх калектываў. Я часта запісваў гэтыя песні на касеты. Зараз гэтую перадачу перанёў «Падляшскі канцэрт пажаданняў» на Радыё Рацыя.

**«Ніва»**

Самая папулярная беларуская газета ў Польшчы, яркі вобраз жыцця беларусаў Беласточчыны. На яе старонках многа пісалася пра беларускія школы на Падляшшы, друкаваліся ўспаміны з бежанства, інтэрв'ю з вядомымі беларусамі з Падляшша і Беларусі. Заўсёды свежы нумар тыднёвіка мой бацька прывозіў з горада або куплялі мы ў паштальёна, якім быў бацька майго найлепшага сябра Грышкі. Да Грышкі хадзіў я чытаць газеты або паглядзець яго вялікую калекцыю нумароў «Нівы» ад 1950-х да 1990-х гадоў. Дарэчы, бацька Грышкі — дзядзька Валодзя — быў дзеячам БГКТ і сябраваў з Уладзімірам Сідаруком — карэспандэнтам «Нівы». А «Ніве» зараз 60 гадоў і маецца яна вельмі добра.

**«Белавежцы»**

Беларускія пісьменнікі з Беласточчыны — члены Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» — прыязджалі ў кожную беларускую школу на Падляшшы. Сустрэча з імі была сапраўдным святам і нагодай купіць у іх новую кнігу. Жывы доказ таго, што на Беласточчыне маем сваю беларускую літаратуру. Тады я яшчэ не ведаў і не спадзяваўся, што калісьці таксама стану «белавежцам» і буду мець сярод іх сяброў.

**Падляшская поп-фольк музыка**

Хто ж зараз не ведае такіх беларускіх гуртоў з Падляшша як «АС», «Прымакі», «Рэмікс», «Рэаль»? Кожны гурт выдаў хаця б адну аўдыёкасету. Усе яны пачыналі сваю кар'еру ў 90-х гадах і атрымалі вядомасць дзякуючы перадачы Уладзіслава Праховіча «Беларускі канцэрт пажаданняў». Добра памятаю канцэрт гурта «Рэаль» у Малінніках у 1994 годзе, на які з'ехаліся амаль усе жыхары навакольных вёсак і Маліннік, каб паслухаць беларускіх песень у выкананні братоў Кавальскіх з Крыўца.

**«Званок»**

Гэта мае асабістыя 90-я гады. Беларуская школьная газетка, якую я сам рыхтаваў, уручную пішучы і размалёўваючы. Сам сабе быў я рэдактарам, журналістам і графікам, а мае сябры-аднакласнікі і настаўнікі з белліцэя яе растыражоўвалі і чыталі. Тады амаль ніхто не меў камп'ютара, таму я сам „Званок" поўнасцю размалёўваў пяром і пісаў.

**Гурт «АС»**

Дзякуючы беларускім касетам гурта «АС» я стаў беларусам. Хто ж не ведае такіх культавых хітоў — дарэчы, гэта іх аўтарскія песні — як «Едуць гарадскія», «Песня пра маму», «Дзяўчыначка», «Гэй, паны», «Вечар», «У маю», «Песня пра каханне» ды многіх іншых. А іх культавая «Айчына» гэта гімн усіх маладых беларусаў, што з родных падляшскіх вёсак выехалі ў гарады Польшчы і за мяжу. Заўсёды ўзрушаюся, калі слухаю гэту песню. Тады, у 90-х гадах, я яшчэ не ведаў, што нераз сустрэну ў Беластоку лідара гурта «АС» Славаміра Трафімюка, які нарадзіўся ў той самой вёсцы, што і мая цешча.

**Трактар «Уладзімірац»**

Самы папулярны трактар на Падляшшы 80-х і 90-х гадоў. Большасць дробных гаспадароў Бельшчыны і Гайнаўшчыны мела гэтага культавага чырвонага стальнога каня, якога можна было купіць у «Пронары» ў Нарве. Таксама мае бацькі па сённяшні дзень карыстаюцца «Уладзімірцам». Факт, часта ён псаваўся, але запчасткі да яго самыя танныя, прытым мала расходуе ён паліва. Ім у 90-х сяляне ездзілі ўсюды: на поле, на сенажаць, у лес, у горад на рынак, а нават у царкву. На ім я вучыўся ездзіць па нашых падляшскіх палях.

**Беларускі рок**

Дзякуючы перадачы «Пад знакам Пагоні» ў 90-х гадах я ведаў песні «Уліса», «Н.Р.М.», «Брагі», «Гомана», «Новага неба» ці гурта «Кардон». Запісваў іх з радыёпрыёмніка на касеты. Сам рабіў вокладкі да самаробных касет і марыў паехаць на «Басовішча», на якое бацькі мяне не пускалі. Тады ў бельскім белліцэі многа людзей слухала беларускі рок. Таксама некаторыя ігралі ці спявалі ў беларускіх рок-гуртах.

Беларускі рок быў вельмі папулярным у 90-я гады на Беласточчыне. Зараз таксама маецца вельмі добра.

**«Auto Świat»**

Самая папулярная польская газета пра свет аўтамашын. З вялікай зацікаўленасцю чыталі яе я і мае сябры, якія цікавіліся аўтамашынамі. Амаль ніхто з нас яшчэ не меў сваёй аўтамашыны. Гэтую газету купляў у горадзе я сам або мая матуля.

**Аўдыёкасеты**

Яркі сімвал 90-х гадоў. Кожны малады чалавек у 90-х гадах меў іх прынамсі сто штук. Слухалі мы іх на магнітафоне або плэеры. Першай маёй касетай была касета беларускага гурта «Transformation». Тады ніхто з нас не купляў кампакт-дыскаў, таму што адзін кампакт-дыск каштаваў столькі, што 3-4 аўдыёкасеты. Асабліва я любіў збіраць аўдыёкасеты беларускіх і польскіх гуртоў. Часам траплялі ў рукі аўдыёкасеты гуртоў з Расіі і Украіны. Касеты заўсёды купляў я на бельскім рынку ў кожны чацвер або на страганах на прыхадскія святы. Калісьці я паехаў да аднаго сябра з суседняй вёскі купіць у яго падручнікі і пабачыў, што цэлая сцяна яго пакоя выкладзена каляровымі касетамі гуртоў «дыска-пола».

**Бельскі рынак**

У Бельск на рынак у першай палове 90-х гадоў ездзілі мы пару разоў у год. Пераважна перад пачаткам школьнага года, каб купіць новую вопратку, новыя сшыткі ці касеты. Тады на кірмашах гучала музыка «дыска-пола». Таксама на рынку мая маці прадавала яйкі, а бацька — збожжа. На рынак ездзілі мы трактарам «Уладзімірац» або на аўтобусе.

**Бельскі аўтавакзал**

У 90-я гады гэтае месца бурліла жыццём. Тады там цяжка было знайсці сядзячае месца. Тут сустракаліся натоўпы жыхароў Бельшчыны, Гайнаўшчыны і Сямятыччыны, ад якіх гучна і звонка гучала наша самая прыгожая родная падляшская мова — эсперанта беларускай, рускай, украінскай і польскай моў, якую я вынес з роднай хаты. Тут былі крамы, сталовая і кіёск з газетамі. Зараз бельскі вакзал — пустое месца. Няма крамаў, а людзі чакаюць аўтобусаў на прыпынку каля Міхайлаўскай царквы або каля бельскай ратушы. Шкада.

**«Рускія»**

«Рускімі» беларусы Падляшша называлі жыхароў былога СССР, якія ў 90-х гадах прыязджалі на Падляшша гандляваць вопраткай і ўсякай усячынай. Мо таму так іх называлі, бо яны размаўлялі з намі па-руску. Таксама рускія прывозілі спірт «Royal» і таму я іх машыны называў спіртавозамі. Ездзілі яны на старых «Ладах», «Масквічах» і «Запарожцах», а багацейшыя — на старых «Мерседэсах» і «Фольксвагенах». Вазілі таксама бензін і салярку, якая напалову была таннейшая ад польскай і ад якой часта псаваліся рухавікі аўтамашын і трактароў жыхароў Падляшша. Зараз рускія ездзяць на прыгожых замежных аўтамашынах у Беласток за пакупкамі ў супермаркеты, а мы даўно ў іх не купляем бензіну, бо наш бензін таннейшы ад іхняга і якасна намнога лепшы.

**«U Pana Boga za piecem»**

Культавы польскі фільм, які ўвайшоў на экраны кіно ў 1998 годзе. Адзіны фільм, які паказвае сапраўднае Падляшша — сутыкненне Усходу і Захаду, праваслаўя і каталіцызму. Цудоўная камедыя, якую можна аглядаць многа разоў і заўсёды рассмешвае яна да слёз. Фразы з дыялогаў увайшлі ў нашае штодзённае жыццё. Большасць акцёраў гэтага фільма паходзіць менавіта з Беласточчыны.

**«Бардаўская восень»**

Менавіта ў 90-х гадах у Бельску з'явілася «Бардаўская восень», на якой я меў нагоду некалькі разоў пабываць. Адзіная беларуская імпрэза на Беласточчыне, на якой можна пачуць самых папулярных беларускіх бардаў з Беларусі і Падляшша: Алега Кабзара, Алеся Камоцкага, Андрэя Мельнікава і іншых. Тут сваю прэм'еру меў культавы праект 90-х гадоў «Народны альбом», якога я меў касету. На «Бардаўскай восені» таксама выступаў «Белы сон».

**Грабарка**

Штогод 18 і 19 жніўня праз маю вёску едзе шмат аўтамашын на Грабарку, на Спаса. А ў 1994 годзе праз Маліннікі праходзіла паломніцтва на Святую Гару Грабарку. 2000 маладых чалавек у маёй вёсцы! Сёлета паломніцтва на Грабарку налічвала каля 300 чалавек. А аўтамашын намнога больш едзе на Грабарку чымсьці ў 90-х гадах.

**Школьныя дыскатэкі**

Школьныя дыскатэкі арганізавалі ў нас заўсёды на ёлкі, Анджэйкі ці на заканчэнне восьмых класаў. Тады хлопцы прыносілі магнітафон з касетамі, падключалі да гукаўзмацняльнікаў і ўся школа гуляла пры беларускай музыцы або пры песнях гуртоў «дыска-пола». Тады ўсе слухалі «дыска-пола» — не толькі вучні, але нават нашы настаўнікі. На дыскатэках часта спазнавалі мы сваё першае каханне.

Юрка БУЙНЮК

# „Цаглінкі”

## — зноў найлепшыя ў Польшчы!

**Пра новы поспех фальклорнага калектыву „Цаглінкі” з Ляўкова папрасіў я расказаць салістку ансамбля Людмілу МАКСІМЮК з Бельска-Падляшскага.**

У днях 29 верасня — 2 кастрычніка адбыўся ва Влацлаўку XVII Агульнапольскі агляд мастацкага руху сеніёраў, інакш званы Сеніярадай або АРСам (ARS — Artystyczny Ruch Seniorów). Конкурсныя слуханні доўжыліся тры першыя дні, а 2 кастрычніка адбыўся гала-канцэрт, на які закваліфікавана 29 выканаўчых суб'ектаў; усіх выканаўчых адзінак было 72, у тым ліку 52 калектывы, 13 салістаў і адзін дуэт. У ліку калектываў былі танцавальныя і тэатральныя калектывы, бо АРС ахоплівае розныя мастацкія формы. Калектыў „Цаглінкі” выступаў у катэгорыі фальклору. Сёлета былі ўнесены змены ў рэгламент, дапускаючы да ўдзелу ў гэтай катэгорыі нават дзяцей; тут маглі выступаць шматпакаленныя калектывы, а не толькі „55+”, як было дагэтуль. Нам гэта паспрыяла, мы пакарысталіся гэтым, бо з намі магла выступіць Паўліна Драўноўская. Яна была нам вельмі патрэбная, у яе выдатнае сапрана — я гэта чую, калі стаю побач яе.

Агляд адбываецца з 1979 года, з 1994 года праз два гады, а раней, бадай, што праз тры; сёлета быў сямнаццаты. Раней адбываўся ён у Быдгашчы, але сёлета ва Влацлаўку, у глядзельнай зале Цэнтра культуры „Бровар Б”. Будынак былога бровара, прыгожа абноўлены, вялікі, прасторны, вялікая зала, добрая акустыка, цудоўна было там выступаць. Былі прадстаўнікі адзінаццаці ваяводстваў.

**А з нашага ваяводства многа было?**

У паасобных катэгорыях праходзяць адборы, спярша раённыя, а пасля ваяводскія. На ваяводскім аглядзе, 25 мая г.г., мы здабылі гран-пры і пераходны кубак, які вярнуўся, прынамсі на два гады, у Ляўкова, бо чарговы агляд адбудзецца менавіта за два гады. З ваяводскага агляду адбіраюць у кожнай катэгорыі найлепшых. Напрыклад, у катэгорыі „Тэатр” беластоцкая „Шпілька” заняла першае месца. У катэгорыі „Танец” выступаў „Сон Гаваяў” і быў саліст з Лап, ды яшчэ хор трэцяга веку. І на 72 выканаўчыя суб'екты менавіта нам прызналі гран-пры. Гэта было нам вялікай нечаканасцю, бо гранпры атрымалі мы ўжо ў 2012 годзе і мы, асабліва мы, не спадзяваліся, што зноў так хутка можна атрымаць гран-пры. Гэта гран-пры імя Тытуса Фрэліхоўскага, які быў ініцыятарам Сеніярады. У Ляўкова паехала статуэтка, атрымалі таксама невялікую грашовую ўзнагароду. Усяго арганізатары раздалі 45 узнагарод. Важнае ва ўсім гэтым тое, што людзі могуць спаткацца, паказаць, што штосьць робяць, штосьць умеюць, падаць іншым якуюсь радасць, станоўчыя хваляванні. Маем ужо шмат знаёмых. „Цаглінкі” прымаюць удзел у Сеніярадзе рэгулярна з 2008 года. Здаецца, што выступалі і ў 2002 годзе, але я тады яшчэ ў Ляўкове не спявала. І так ладзім кантакты. Вось у 2012 годзе быў у нас калектыў „Ustronie” са Скернявіц, мы ездзілі да іх, яны ездзілі разам з намі ў Беларусь. Гэтая паездка была для іх вялікім сюрпрызам. Пішацца ў нас пра Беларусь мінорна, а яны ўбачылі там сапраўдную Беларусь — задбаныя палі, агульны парадак; былі ў Гродне і ў наваколлі Гродна. Яны былі вельмі здзіўлены тым, што пабачылі, яны былі ўпершыню ў Беларусі. І на юбілей да нас яны прыязджалі. А сёлета мы завязалі кантакт з хорам ад Замосця. І ад Чанстаховы хацелі нас у сябе гасцяваць, але туды крыху далекавата. І з Паслэнка, можа туды паедзем. І гэта ўсё станоўчае — хто паехаў туды ўпершыню, той быў захоплены настроем — людзі сталага ўзросту ўмеюць ставіцца да сябе з сімпатыяй, разам радавацца.

Кожны разрад мае іншы час для выканання сваёй праграмы. Мы, як фальклорны калектыў, мелі адведзеных дваццаць мінут. І трэба было ў тых дваццаці мінутах змесціцца, бо за перавышэнне ліміту прадбачваліся штрафныя балы, або журы можа нават спыніць выкананне, калі задоўгае. Мы спявалі беларускія песні. Некаторыя дзіваваліся: а вы з Беларусі, з Украіны, што так чыста спяваеце? Заспявалі мы „Семяноўскую чайку” на словы Мікалая Варанецкага і музыку нашага музычнага кіраўніка Міколы Мяжэннага, „Ой пайду я на даліну” — гэта песня, якую мы выканалі на апошнім гала-канцэрце „Беларускай песні”, „Грымата” — пад гэтую музыку мы крыху танцавалі, бо ж калектыў не можа толькі стаяць і спяваць, „Ой пад мостам” — тут таксама танцавалі, з каляровымі хусткамі-шаліноўкамі. А на канец была вязанка народных песень — рускіх, польскіх і беларускіх. І ўпасаваліся ў час. І адразу было відаць, яшчэ ў час выканання, што з намі падпяваюць, нам апладзіруюць, зала калыхалася. А аўдыторыя была поўная, саміх выканаўцаў у ходзе ўсяго конкурсу было там каля тысячы, а ў час гала-канцэрта то стаячае месца цяжка было знайсці — цэлая зала забіта публікай. А на гала-канцэрце мы выступілі перадапошнімі — пра гэта вырашыла журы і заспявалі „Ой пад мостам” — бо гэты нумар, з хусткамі, найбольш эфектны. А як аб'явілі вынікі, то адны плакалі, іншыя пішчалі з радасці, а тут загадваюць нам ісці на сцэну выступаць яшчэ раз. На гэты раз заспявалі „Грымату”, а пасля фрагмент песні „Жураўлі”, якая стала хітам Быдгашчы ў 2012 годзе, калі мы таксама атрымалі гран-пры. Такая падзея гэта цудоўная справа, бо чалавек бачыць, што ён вартасны, што калектыў, як адзначыла адна член журы, „не мае роўных сабе, няма да каго вас параўнаць, а ваш мастацкі ўзровень пастаянна расце”. І за гэта, адзначыла яна, прысудзілі нам узнагароду гран-пры. Узнагароды ўручала прэзідэнт Влацлаўка.

**А як Вы трапілі ў „Цаглінкі”?**

Я спачатку спявала ў „Васілёчках”; у 2003 годзе, калі дзеці пасталелі і афарміла званне дыпламаванага настаўніка, далучылася да „Васілёчкаў”. Тады „Васілёчкі” вёў Мікалай Мяжэнны. А ў час аднаго са святаў беларускай культуры ў „Цаглінках” не было каму заспяваць песню, якую я ведала. Строі былі падобныя, як і ў „Чыжавян”, з якімі я тады таксама спявала, бо працавала ў чыжоўскай школе, дзе вяла свой вакальны калектыў „Прамыкі”, якому падыгрываў Юры Ганевіч — музычны інструктар „Чыжавян”. І Мяжэнны папрасіў мяне выступіць з „Цаглінкамі”. А нашы строі, з сінімі палоскамі, падобныя... І так, памаленьку, пачалося, з Ляўковам. Адсюль, з Бельска, яшчэ адна асоба спявае з „Цаглінкамі”. У Ляўкове, па сутнасці, мала спявакоў. І не ведаю чаму так дзеецца — ці іх сапраўды мала, ці не хочуць. І з Гайнаўкі шмат людзей у „Цаглінках”. І калі б не тыя звонку, то, мабыць, не ўдалося б дабіцца ні такога ўзроўню, ні такіх поспехаў. А так маем тое, што маем.

**А цяпер Вы толькі ў „Цаглінках”, ці яшчэ дзе?**

Толькі з „Цаглінкамі”, недзе з 2007 бадай года. І на маю думку — калі хтось умее спяваць, то павінен спяваць. Бо гэта дар ад Бога, талент, якім трэба дзяліцца, нельга яго трымаць толькі сабе. Бо ж кажуць часта, што той хто спявае, моліцца двойчы і жыве багацейшым жыццём. А жыццё адно, і калі яго не скарыстаць поўнасцю, то шкада, бо другая нагода не паўторыцца. А калі даецца людзям радасць цераз песню, цераз станоўчыя перажыванні, бо так яно ёсць, то трэба гэтага трымацца. 9 кастрычніка прадбачваем выезд у Гродна, ладжаны Беларускім грамадска-культурным таварыствам, маем запланаваны два канцэрты калядак у Белавежы. У лістападзе прадбачваем выезд у Гродна, да „Росніцы”, што пры „Азотах”, мы з „Росніцай” супрацоўнічаем, яны былі ў нас на юбілеі, а цяпер мы едзем да іх. Калі нехта лічыць, што „Цаглінкі” лішнія, то вельмі памыляецца, бо нашы поспехі даказваюць, што мы вельмі запрацаваныя, мы станоўча прадстаўляем навонкі Нараўчанскую гміну, хаця шмат у нас асоб звонку. Але гэта нас радуе, мы цешымся, што прадстаўляем наша падляшскае асяроддзе, што рэпрэзентуем нашу культуру і даем людзям радасць. А гэтую радасць асабліва было відаць і ў Быдгашчы, і ва Влацлаўку.

**Дзякую Вам і за Ваш уклад у поспех, і за Ваша далучэнне да ляўкоўскага калектыву, і за сённяшнюю змястоўную інфармацыю. І жадаю Вам далейшых поспехаў.**

Запісаў і сфатаграфаваў **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



---

**Юрка БАЕНА**

* * *

Моцныя дрэвы вецер лашчыць,
кволыя — ломіць,
кладзе ўпокат маладняк.
Гарыць галлё,
лугоў асенняе сукно.
Не адзываюцца званы
над мілым краем, над нямым.

Пад дзяругай ночы
холад селіцца.
Брыдзе па свеце забыццё.
Надзеі мала,
у болі боль,
у вачах бяссонніца, як соль...

Каб дух не быў атручаны,
спяшаю да крыніц.
Каля муроў святых
здзіраю бінты
са свежых ран
і з ран старых...
..............................................
Слова — не пойдзеш ты ў палон!
Розум — ты мой апошні бастыён!

* * *

З многіх газет
адзічэлы крычыць свет...

Канчаецца лістапад.
З поўначы ідзе снегапад.
Сны, вакол жоўты пясок...
На шчырасць душы — лёд.
Горка смакуе соль слёз.
Вярба-ўдава ломіць рукі.
Надзея з далёкіх дарог
рэхам не адгукаецца...

Малюся да святых,
да сонца, зямлі, карэння.
Праз пустынны агонь нясу
адзінокае сэрца.
У ім ад усякага зла
замкнуў я на ключ
найдаражэйшы скарб
— малую сваю Беларусь!

### Галубы

Як цені няздзейсненых мар,
прылятаюць да мяне галубы.
Апусціўшы крыллі,
дакранаюцца да зямлі.

На ратунак спяшаю — кармлю.
Не спазнаўшы больш голаду,
холаду
або і скону,
хай са мною жывуць.

— Непрысутныя мары-галубы, дзе вы?
— У воку цыклону... — тут мы!

* * *

На правінцыі блакады, бар'еры,
але і бываюць цікавыя кар'еры.
Захапленне зацьменнем,
гарачае вуголле і каменне.

Калючае святло рэфлектараў,
шаўковыя твары дырэктараў.

Тыя, што на парадзе гулкім,
пляскаюць у лапкі,
дзьмухаюць у трубкі...

Прыклееныя ўсмешкі, свет у казцы...
Можа народ мой у масцы?

* * *

Ніхто за намі не ідзе...

Поўны жалю,
плыве наш каўчэг —
сярод апусцелых слоў,
твараў без імён,
вачэй халодных,
як паверхня лёду.

За блакітнай ракой,
за сёмай гарой,
за каскадам дзён —
пара развітанняў перад сном —
у светлых алеях
апаўшага лісця.

# Залатое вяселле ў Орлі

**У сераду, 28 верасня, у банкетнай зале „Маэстра" ў Орлі адбылася ўрачыстасць уручэння медалёў 50-годдзя з дня шлюбу. Пары юбіляраў ды іх шматлікія сем'і сустрэліся з уладамі Арлянскай гміны. Былі слёзы расчуленасці, букеты кветак, сувеніры, шампанскае і салодкі банкет.**

Пасля праіграння фрагменту марша Мендэльсона, сакратар Гміннай управы Ірэна Адзіевіч сказала:

— Шаноўныя юбіляры, шаноўныя сабраныя. З вялікай радасцю вітаю ўсіх вас ад імя гаспадара сённяшняй сустрэчы — спадара Пятра Сэльвесюка — войта Арлянскай гміны, ад імя старшыні Гміннай рады спадара Аляксандра Кліна, ад імя намесніцы загадчыка Загса спадарыні Катажыны Дабрачынскай ды ад уласнага імя на ўрачыстасці 50-годдзя шлюбнага жыцця. Як сцвердзіў Канстанты Ільдэфанс Галчынскі, „пакахаць гэта не ўсё, трэба яшчэ ўмець прыняць гэту любоў у рукі і пранесці яе цераз усё жыццё". Гэта вам удалося. Паўстагоддзя гадавіна заключэння сужонства, г.зв. залатое вяселле, гэта незвычайны юбілей, гэта сімвал сямейнай вернасці і любві, гэта доказ узаемнага зразумення сутнасці сужэнства, гэта прыклад для перайманя маладым пакаленнем. Шаноўнае спадарства, за згоднае сямейнае сужыццё, за высілак і ахвярнасць дзеля дабра сваіх сем'яў атрымліваеце ад Прэзідэнта Рэчы Паспалітай па прапанове войта Арлянскай гміны медалі за шматгадовае сямейнае сужыццё.

Перад афіцыйным актам адзначэння войт Пётр Сэльвесюк сказаў:

— Паважаныя юбіляры, шаноўнае спадарства, дарагія сабраныя. Найперш дзякую вам, юбілярам, за прыём запрашэння на сённяшнюю ўрачыстасць. Гэта незвычайны дзень вам, як юбілярам, ды адметны вашым сем'ям, вашым дзецям і ўнукам, не толькі тут прысутным, але і ўсім. Пяцьдзясят гадоў, гэта найперш добрыя, станоўчыя, радасныя хвіліны. Але, як гэта ў кожным жыцці, былі хвіліны цяжэйшыя, дзе спатрэбілася ахвярнасць так з аднаго, як і з другога боку. Не кожнаму ўдаецца пражыць разам пяцьдзясят гадоў. Калі гляджу на вас, задаволеных, што вам удалося, жадаю, каб і далей так было. Чаго ж у такіх хвілінах яшчэ хацець? Вы працавалі цягам усяго жыцця. І на будучыню жадаю вам моцнага здароўя, бо без здароўя не будзе ні запалу, ні энергіі для сустрэч з дзяцьмі і ўнукамі. Я звярнуўся да Прэзідэнта Рэчы Паспалітай Польскай за адзначэннем вас медалямі і цяпер гэтыя медалі атрымаеце. Сёння вас крыху больш, а сталася так таму, што ў мінулым годзе такой урачыстасці не было, бо і такіх пар было нямнога (8 пар — М. М.), сёння больш (18 пар) і гэта нас цешыць.

Пяцьдзясят адзін год згодна пражылі: **Марыя і Мікалай Федаровічы**, **Галіна і Міхал Кулікі** з Орлі, **Вольга і Лявон Дмітрукі** з Рыгораўцаў, **Ірэна і Мікалай Грыгарукі** з Дыдулёў, **Валянціна і Павел Кулікі** з Пашкоўшчыны, **Вера і Уладзімір Леанюкі** з Кашалёў, **Марыя і Яўстафі Прызовічы** са Шчытоў-Навадвораў ды **Ніна і Ян Шчыголы** з Тапчыкал.

Пяцьдзясят гадоў згодна пражылі: **Тамара і Мікалай Мураўскія**, **Валянціна і Чэслаў Стулігрошы**, **Тамара і Аляксандр Шыманскія** з Орлі, **Анна і Васіль Чыквіны**, **Валянціна і Васіль Рагозы** з Крывятыч, **Антаніна і Анатоль Грыгарукі**, **Галена і Веслаў Рагальскія** з Дыдулёў, **Анна і Дзмітры Корзуны** з Міклашоў, **Крыстына і Антон Крышылы**, **Марыя і Расціслаў Савіцкія**, **Зінаіда і Васіль Шымчукі** са Шчытоў-Дзенцялова, **Марыя і Рыгор Кулікі**, **Надзея і Міхал Сосны** з Пашкоўшчыны, **Валянціна і Аляксандр Осы**, **Вольга і Уладзімір Рыбачукі** з Кашалёў, **Ніна і Ян Шчыголы** з Тапчыкал, **Анна і Мікалай Шкоды** з Рыгораўцаў ды **Клаўдзія і Ян Жменькі** з Вулькі.

Пасля ўручэння медалёў, букетаў кветак ды пледаў у падарунку (тром адсутным парам адзнакі і сувеніры гмінныя працаўнікі давезлі дамоў), юбілярам паднеслі па келіху шампанскага, а войт Пётр Сэльвесюк пажадаў многіх далейшых гадоў жыцця. Затым папрасілі ўсіх сесці за супольны вялікі стол, прыгожа прыбраны на белы колер, накрыты салодкім печывам, цукеркамі, халоднымі ды гарачымі напоямі. Юбіляраў павіншаваў старшыня Гміннай рады Аляксандр Клін.

Мастацкую частку прыгатовілі арлянскія школьнікі. Першым выступіў калектыў „1/3" вучняў трох першых класаў пачатковай школы, якімі апякуецца настаўніца Альжбета Цюльквіч. Выступленне калектыву завяршыў прыгожа выкананы гімн „Орля, Орля". Затым выступіла тэатральна-танцавальная група „Байка", якою апякуецца настаўніца Аля Зінкевіч. Дзеці танцавалі і дэкламавалі. Мастацкую частку завяршыў прыгожымі песнямі калектыў старэйшых дзяцей „Bez endu", якім апякуецца настаўніца Анна Фіта.

Юбіляраў абслугоўвалі афіцыянткі, усё адбылося культурна, чыста і зладжана. Сеньёры павесялелі. Пачалі галосна ўспамінаць свае даўнія вясельныя застоллі, паявілася тэма працы, здароўя, прамінаючага часу... У зале царыла вельмі сардэчная атмасфера. Паплылі песні, юбіляры спявалі „Кацюшу", „Колю-трактарыста", „Ой хацела мяне маць"... Усе згодна, хаця з некаторым расчуленнем, падкрэслівалі, што пяцьдзясят гадоў прамінула быццам было гэта ўчора...

**Міхал МІНЦЭВІЧ**




# http://belreform.org

У наступным 2017 годзе беларусы будуць адзначаць 500-годдзе выдання Францыскам Скарынам яго першай кнігі — Бібліі. Яе публікацыя стала значным крокам у развіцці нашага народа. Таму няма нічога дзіўнага, што да імя Скарыны імкнуцца далучыцца як мага больш людзей, спрабуючы патлумачыць вялікую падзею 500-гадовай даўніны праз свае сённяшнія погляды на тагачасную рэчаіснасць.

У часы Скарыны Еўропа, і ў першую чаргу Каталіцкі касцёл, перажывалі рэфармацыйны рух. Паводле цяперашніх пратэстанцкіх мысліцеляў, менавіта гэта падштурхнула развіццё навукі і культуры на землях Вялікага Княства Літоўскага. Аб гэтым менавіта ідзе гаворка на пратэстанцкім сайце „Рэфармацыя ў Беларусі", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belreform.org.**

„XVI стагоддзе ўвайшло ў гісторыю як Залаты век нашай краіны. Гэта быў час, калі Вялікае Княства Літоўскае перажывала незвычайны ўздым у культурным, эканамічным і палітычным жыцці. Друкаваліся кнігі на беларускай мове, пісаліся паэмы, багаслоўскія трактаты, дзённікі, белетрыстыка, былі выдадзены адны з лепшых у Еўропе зборнікі законаў, імкліва раслі гарады, развівалася сельская гаспадарка", — сцвярджае аўтар Антоні Бокун у сваім артыкуле „Рэфармацыя і Залаты век Беларусі, або Як свядомасць вызначыла быццё" ў рубрыцы „Гісторыя" на дадзеным сайце. Паводле яго, дзеячы Рэфармацыі бачылі ў Скарыне свайго аднадумца.

„Уся дзейнасць Скарыны — гэта перш за ўсё рэфарматарская дзейнасць, накіраваная на аднаўленне асабістых адносінаў чалавека з Богам. Усе прадмовы першадрукара прасякнуты ідэямі Рэфармацыі, прагненнем вярнуць хрысціянаў да першакрыніцы — Біблії. І таму абсалютна справядліва мы можам назваць Францішка Скарыну адным з першых дзеячаў Рэфармацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, распачынальнікам беларускай Рэфармацыі", — упэўнены аўтар Станіслаў Акіньчыц. Аб гэтым распавядаецца ў яго артыкуле „Беларускі першадрукар" у рубрыцы „Асобы".

Што ж тычыцца гэтага, бадай, адзінага беларускамоўнага сайта аб Рэфармацыі, то ён, па ўсім відаць, з'явіўся ў 2003 годзе з нагоды 450-годдзя ад пачатку шырокага распаўсюджвання ў Беларусі рэфармацыйных ідэй. Менавіта гэта і вызначае яго тэму — Рэфармацыя ўчора і сёння.

Галоўная старонка сайта складаецца з трох частак. Першая, што месціцца справа, змяшчае выйсці на рубрыкі. Іх не надта многа. Апрача дзвюх вышэйзгаданых, ёсць яшчэ „Ідэі", „Дакументы", „Даты", „1553-2003" і „Фотагалерэя". У другой, што пасярэдзіне, знаходзяцца асноўныя тэксты. Напрыклад, у „Ідэях", як і належыць назве, ідзе аб ідэалагічным напаўненні пратэстантызму, яго вытокаў і стане ў сучасным грамадстве. Артыкулаў там даволі многа і шмат якія з іх дублююцца ў іншых рубрыках. Асобнымі раздзеламі ў „Ідэях" стаяць „Багаслоўская думка Рэфармацыі", „Рэфармацыя і культура", „Рэфармацыя і грамадскае жыццё", „Рэфармацыя і эканоміка", „Рэфармацыя і навука".

Трэцяя частка аддадзена пад электронныя версіі кніг, так ці інакш датычных пратэстантызму, а таксама электронныя версіі розных перакладаў Біблії на беларускую мову. Ёсць там нават версія Святога пісання для смартфона на платформе Android.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Яркая старонка беларускай адукацыі

# 100 гадоў з дня адкрыцця Свіслацкай настаўніцкай семінарыі

15 кастрычніка 1916 г. у Свіслачы адчынілася Беларуская настаўніцкая семінарыя, якая працавала і дзейнічала два гады. Гістарычнай папярэдніцай гэтай навучальнай установы была легендарная Свіслацкая гімназія, у якой вучыліся дзясяткі выдатных пазней навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў, паўстанцаў, грамадскіх дзеячаў. Працавала яна з 1804 да 1845 год у розных статусах, пасля была пераведзена ў Шаўлі Ковенскай губерні. У 1876 г. была створана Свіслацкая настаўніцкая семінарыя, якая ў ваенны час у 1915 г. была эвакуявана ў глыбіню Расейскай імперыі — у горад Мядынь Калужскай губерні. У 1916 г. семінарыя была адчынена ўжо немцамі.

Гімназія рыхтавала настаўнікаў для беларускіх пачатковых школ на тэрыторыі Беларусі, акупаванай войскамі Германіі ў час Першай сусветнай вайны. Была ўтворана з дазволу і пры фінансаванні нямецкіх улад. Паводле статута ў семінарыю прымаліся асобы абодвух полаў і рознага веравызнання, якія скончылі 4 класы гімназіі або гарадскога ці вышэйшага пачатковага вучылішча (фактычна прымалі і з меншым адукацыйным цэнзам). Навучанне вялося на беларускай мове. Усяго праз гімназію прайшло 5 патокаў слухачоў.

Тэрмін навучання першых 4-х выпускаў настаўніцкай семінарыі складаў 3-4 месяцы, 5-га — 8 месяцаў. Дазвалялася здаць курс навучання экстэрнам. Выкладаліся наступныя прадметы: беларуская мова і літаратура, нямецкая мова, рэлігія, педагогіка, арыфметыка, асновы геаграфіі, гісторыя Беларусі, гімнастыка, спевы, маляванне, гігіена, садоўніцтва і агародніцтва, ручная праца.

У 1917 г. лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры чытаў прафесар Вроцлаўскага ўніверсітэта Рудольф Абіхт. Ён — першы замежны вучоны, які наладзіў сувязі яшчэ ў 1916 г. з прадстаўнікамі беларускай культуры — братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім, Янам Станкевічам. У беларускай газеце „Гоман" змясціў артыкул „Калі пісан «Тарас на Парнасе»". Беларускія матэрыялы і пераклады друкаваў у розных нямецкамоўных газетах. Абіхт не толькі вывучаў і знаёміў нямецкага чытача з адраджэннем беларускага пісьменства, але і спрыяў яго развіццю. На 66-м годзе жыцця ён заняўся вывучэннем беларускай мовы і неўзабаве авалодаў ёю. Гэта быў першы замежны вучоны, які чытаў ва ўніверсітэце лекцыі па беларускай мове.

Баляслаў Пачопка выкладаў у семінарыі беларускую мову і лаціну. У кастрычніку 1915 г. з Вільні разам з сям'ёй ён пераехаў у Свіслач, каб з дазволу нямецкіх улад разам з іншымі дзеячамі стварыць першую беларускую настаўніцкую семінарыю. Быў яе дырэктарам, хоць фармальна яе кіраўніком быў немец Бэндэха. У час працы ў Свіслачы пачаў збіраць беларускія народныя песні, якія планаваў выдаць у зборніку „Беларуская ліра", аднак гэтая праца не была завершана. Баляслаў Пачопка паводле сваіх лекцый у семінарыі ў 1918 годзе выдаў у Вільні лацінкай „Граматыку беларускай мовы". Праўда, яе крытыкавалі беларускія мовазнаўцы за шматлікія паланізмы і русізмы, але безумоўна гэта была праца, якая зрабіла свой унёсак у беларускае мовазнаўства.

У семінарыі вучылася многа асоб, якія сталі вядомымі беларускім дзеячамі: Вера Маслоўская, Аляксандр Грыкоўскі, Аляксандр Коўш, Уладзімір Шалешка і многія іншыя. Усяго семінарыя падрыхтавала 144-х беларускіх настаўнікаў. Зачынена была 15 лістапада 1918 года.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**


Загароддзе вуліцы Маладзёвай

# У палескай глыбінцы (58)

Наталля Шклёда за чатыры дні выдавала замуж старэйшую дачку. І хоць вяселле ладзілі ў Луцку, усе хатнія справы круціліся вакол сямейнай падзеі. Я сама адчувала вялікі дыскамфорт. Забіраць час у такі момант — звычайнае нахабства. У галаве бліснула ідэя, каб перакласці сустрэчу на іншы тэрмін.

Прыпрыпяцкія людзі не выпусцяць госця з пустымі рукамі. Яны адразу адсунуць свае справы і абавязкі набок, каб служыць гасцінай і дапамогай.

Сваё значэнне меў яшчэ Беласток, які ў сям'і Шклёдаў явіўся паўміфічным і родным месцам.

— Мой дзед ад Беластока, — адзначыла гаспадыня, — дакладна з сяла Парослы.

Такая нечаканасць! У хату Шклёдаў я з'явілася, каб высветліць варажскія сляды ў Лебязі. А тут сустракае мяне асоба, жыва зацікаўленая беларускімі слядамі на Беласточчыне.

— А прозвішча Шклёда — па мужу, — удакладніла гаспадыня, — ён родам са Свалавіч. Гэтае сяло вядомае з-за архаічнай палескай забудовы, з арнаментамі і саламянымі стрэхамі, бездарожжаў і абязлюдзення. Што там яшчэ цікавага? Калісь працаваў паром на Прыпяці ды шмат людзей займалася спекуляцыяй. Ну, набывалі ўсякі тавар у Пінску і прадавалі па лепшай цане ў наваколлі. Нават мая цешча гэтым займалася....

Каб больш рэальна прадставіць месца, адкуль Шклёды, Наталля Іванаўна паказала мне *варэньку,* наплечны кошык, сплецены ўручную з лыка, у якіх туземцы насілі тавары і плады з поля. Зграбны кашэль пахнуў яшчэ свежай ліпай.

— Муж прысеў і сплёў на ходу, — патлумачыла настаўніца, — каб было з чым хадзіць па грыбы. Некалькі разоў увосень разам выпраўляемся ў Свалавіцкі лес, у свае грыбныя месцы. Бывае, прысядзеш і адразу цэлую *варэньку* белымі грыбамі напоўніш.

Збіраюць для сябе і на падарункі для добрых людзей. Ніколі на гандаль! Чаму? Каб не згубіць прыемнасць ад грыбных паходаў. Гэта такая асалода, як схадзіць у кіно або і ў найлепшы на свеце тэатр. Такая з мяне вырасла паляшучка!

* * *

Папраўдзе Наталля Шклёда выводзіцца з прыезджай інтэлігенцыі. Бацькоў накіравалі ў Любязь будаваць сацыялістычную Украіну. Для гэтага роду прыезджых узнік спецыяльны квартал — вуліца Маладзёвая. Тут сяліліся настаўнікі, інжынеры, медыкі і партыйныя бонзы. Першы шок чакаў вясной, калі разлівалася Прыпяць і падыходзіла пад парог хаты. Асвоіцца з месцам дапамагалі туземцы, якія не разумелі спалоху прыезджых.


Наталля Шклёда


Маці Наталлі з партрэтам Станіслава Валесюка

— Вада тры дні пастаіць і адыдзе! — гаварылі.

Разам з паводкай пачынаўся рыбны сезон, калі «найлепшая рыба стаяла ў роце». Прыезджых чакаў яшчэ адзін выклік. У час паводак камунікацыя адбывалася толькі па вадзе.

— Каб жыць у такім месцы, мусова прыдбаць лодку, — кажа Наталля, — іначай нельга абрабіцца ў гаспадарцы. Інтэлігенцыя падавала прыклад. Наталля, хоць дачка медыка і калгаснага кіраўніка, першая спяшала на сенаванне. Іх участак знаходзіўся ў лясным урочышчы, спачатку плылі чаўном па Прыпяці, пасля прытокамі да назначаных урочышчаў. Траву касілі ў балоце, вада часта сягала па грудзі. Ніхто не звяртаў увагі на п'яўкі і авадні. І гэта не была самая цяжкая праца. Скошанае сена трэба было сабраць у купкі і на спіне занесці ў лодку. Траву перавозілі на сухі груд, каб там пасушыць і скласці ў стог.

— Такая праца вельмі карысная для будучага гісторыка, — смяецца мая субяседніца. — Мы нагой дакраналіся да ўсякіх легенд і гістарычных падзей. Людзі гаварылі пра гістарычныя здарэнні з далёкіх вякоў, а памяць бараніла назовы ўрочышчаў, як Татарскае балота, дзе ўтапілася зваблёнае ў дрыгву варожае войска, дзесьці ў часы сярэдневякоўя. Пасля меліярацыі ніхто ўжо не дабіраецца чаўном па сена. І людзі ўсё забываюць, не гавораць ужо пра такія ўрочышчы. Атрымліваецца такое, быццам свет узнік разам з асфальтавай дарогай.

З маладых гадоў Наталля запамятала яшчэ дружнасць мясцовых людзей, усе большыя працы выконвалі талакой. Талакой паставілі іх драўляны, прыгожы дом па вуліцы Маладзёвай у 1974 годзе. Будова трывала чатыры-пяць дзён.

* * *

Сямейныя сувязі Наталлі Шклёды з Беласточчынай, праз маці, якая нарадзілася ў канцы 40-х гадоў на Хмяльніччыне. Дзед, Станіслаў Канстанцінавіч Валесюк, неахвотна гаварыў пра мінулае. Наталлю заўсёды інтрыгавала, чаму ён — паляк, па пашпарце запісаўся беларусам.

— Ці вядома, чаму ён з'ехаў жыць на Украіну? — пытаю.

— У іх сям'і штосьці адбылося, — чую ў адказ, — бо сястра дзеда з'ехала ў Амерыку і хацела, каб ён да яе прыехаў і застаўся там жыць. Але дзеду гэта не падыходзіла. Ён відавочна ваяваў з Чырвонай Арміяй і застаўся жыць на Украіне. Можа да гэтага спрычынілася бабуля? Полька, родам з Падольшчыны. Ніхто ніколі з сям'і не наведаў Пароcлаў.

— Ці існуе яшчэ такое сяло? — спытала мяне настаўніца.

— Існуе ды яшчэ як! Гэта прэстыжны прыгарад Беластока.

Мой адказ вельмі ўсцешыў субяседніцу з палескай Любязі. У сям'і запамятаўся адзін расказ пра парослаўскага прадзеда Мікалая, які даваў малому Станіславу «пяць капеек на булку з разынкамі»... Беластоцкі след, аднак, цягнецца за сям'ёй па сённяшні дзень...

Бацькі Наталлі Іванаўны пазнаёміліся ў Камянцы-Падольскім. У Любязь трапілі ў сярэдзіне 1960-х гадоў, дзе бацька стаў кіраўніком калгаса, а маці паўстагоддзя працавала фельчарам. Мясцовыя людзі здзіўляліся чаму яна — Станіславаўна. І шчыра, ад душы ставілі ён дзіўнае пытанне: *А муж не крыўдуе, што вы палячка?* Яна толькі заўсміхалася. Бо як паясніць людзям, што бацька — беларус з Польшчы? Хто гэта зразумее!

Я найлепш ведала складанасць праблемы. Толькі ў хаце Наталлі Шклёды разумелі, што жыхарка Польшчы можа прадстаўляць беларускую газету.

У кожным іншым месцы нацыянальнасць палешукі спалучалі з адміністрацыйнымі межамі дзяржаў.

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960